Адна зямля

Мядзел

Астравец

Смаргонь

Ашмяны

# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

8 снежня 2017 года №49 (1180)


## Расклад руху цягнікоў па станцыі Маладзечна ад 10 снежня

старонкі 20-21

## Біткойны – што гэта за звер? І чаму чалавек, які купіў піцу, кусае сабе локці

старонка 17

## Вілейскі прадпрымальнік плануе аднавіць "Казіны" мосцік праз Вілію

старонка 2



# Мінчанка, якая з'ехала ў ваду: "Гэта быў не шок, а валасок ад смерці"



Ганна Кульбіцкая-Крыж расказвае пра тое, што паспела перажыць, калі знаходзілася ў машыне пад вадой.

Супрацоўнікі ДАІ, што прыехалі на месца здарэння праз сорак хвілін, аштрафавалі Ганну на 11,5 рубля за тое, што няправільна выбрала хуткасць і не ўлічыла ўмовы надвор'я.

старонка 4

Зоі КРУЦКАЙ.

## Мы забыліся, што такое адпачынак і цішыня: ільянцы скардзяцца на прадпрымальніка

ВІЛЕЙКА

**У рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" звярнуліся жыхары вуліцы Багатырова, 37, што жывуць у Ілы.**

Па іх словах, насупраць дамоў №№37 і 39 на Багатырова, прыкладна ў 2-3 метрах ад іх участкаў, на зямлі, прызначанай для пасеваў, працуе прадпрыемства па вытворчасці дроў. На зямлі пабудаваныя склады. Кожны дзень ад панядзелка да суботы ад сямі раніцы да сямі вечара працуе тэхніка: лес выгружаюць, дровы загружаюць.

**Насупраць дома №39, проста пад вокнамі, цэлы дзень працуе дрэваапрацоўчы станок. Грукат ад яго чуецца ва ўсіх бліжэйшых дамах.**

Вокны адчыніць немагчыма. Насупраць дома №37 на агародзе мясцовага жыхара складаюць цуркі.

На сённяшні дзень стаіць каля сямі прычэпаў. Дарогі разбітыя, усюды гразь. Адходы спальваюць побач з дамамі. Цэлы дзень пахне дымам. І гэта адбываецца ў экалагічна чыстай зоне, побач з лесам, ракой.

"Мы проста не ведаем куды звярнуцца з просьбай, каб закрылі вытворчасць, спынілі гэту беспадпадарлівасць, – пішуць ільянцы. – Мы, жыхары вуліцы, забыліся, што такое адпачынак і цішыня."

**Сельсавет: асаблівых праблем не бачым, аднак вытворчасць, магчыма, перанясём**

Старшыня сельсавета **Мікалай Русак** ведае пра незадаволенасць жыхароў вуліцы Багатырова.

– Але тое, што яны называюць прадпрыемствам, не прадпрыемства зусім, – кажа Мікалай Вацлававіч. – Проста прадпрымальнік на ўласнай тэрыторыі сячэ дровы. Пасечаныя дровы з задавальненнем набываюць многія мясцовыя жыхары – сталыя людзі, якія не могуць самастойна прывезці і насячы. На маю думку, чалавек робіць добрую справу. Да таго ж робіць на ўласнай тэрыторыі.

Па словах Мікалая Русака, жыхары Багатырова скардзіліся на тое, што ім перашкаджае шум ад молата – прыстасавання, якое сячэ дровы. Таму цяпер прадпрымальнік дамаўляецца з дырэктарам аграфірмы "Ілья" наконт таго, каб секчы дровы на тэрыторыі старой фермы, якая належыць агрофірме, але не выкарыстоўваецца. Яна знаходзіцца далей ад жылых дамоў.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Колькі будзе каштаваць навагодняе дрэўца

ВІЛЕЙКА

У доследным лясгасе распавялі, што ёлачныя кірмашы пачнуцца ў горадзе ад 22 снежня.

Ёлка даўжынёй да аднаго метра будзе каштаваць восем рублёў, ад аднаго метра да двух – дзесяць рублёў, ад двух да трох – дванаццаць. За дванаццаць рублёў таксама можна будзе набыць ёлку ў гаршку, за тры – навагодні букет з яловых галінак.

Кірмашы зладзяць на цэнтральнай плошчы, ля басейна, на вуліцы Незалежнасці. Будуць гандляваць і ў лясніцтвах.

Аксана ЯРАШОНАК.

## У Залессі зладзілі дзіцячы баль

СМАРГОНЬ

2 снежня школа мастацтваў сумесна з музеем Агінскага ў Залессі правялі дзіцячы баль.

У тэатральна-музычнай зале палаца сабраліся маладыя людзі, што жадалі адчуць сябе ў 19 стагоддзі. Узорны ансамбль танца "Віллячка" танцаваў паланэз, падаграс і вальс.

Юным удзельнікам балю вядучыя распавялі пра правілы свецкага этыкету часоў Агінскага, а педагогі вучылі іх танцаваць.

Былі таксама вясёлыя гульні і конкурсы. Дапоўнілі канцэрт выступленні педагогаў школы мастацтваў.

Аддзел інфармацыі.

# З парэнчамі і пляцоўкамі

## Прадпрымальнік плануе аднавіць "Казіны" мосцік праз Вілію

ВІЛЕЙКА

**Вілейскі прадпрымальнік Віталь Малыш плануе аднавіць "Казіны" мосцік праз Вілію, разбураны ўраганам сёлета вясной.**




Сціплы прадпрымальнік Віталь Малыш фатаграфавацца не пагадзіўся. Сфатаграфаваць дазволіў толькі скрыню для ахвяраванняў.

Гэта немалыя грошы, фізічная сіла і іншыя складанасці, але Віталь перакананы: "Казінаму" мосціку ў Вілейцы быць!

– Я нарадзіўся ў Вілейцы ў іншым раёне, але каля "Казінага" мосціка жылі сваякі, – прыгадвае Віталь. – Таму пачынаючы з сярэдзіны 1980-х гадоў тут я бавіў канікулы, святкаваў дні нараджэння. Ведаю, у многіх віляйчан з мосцікам звязаныя падобныя ўспаміны. Як можна сцерці з памяці гэту "вілейскую славутасць"?

Віталь распавёў, што мосцік самастойна будавалі жыхары Вілейкі, якія жывуць каля ракі. Калі трэба, самі, без дапамогі ўладаў, рамантавалі яго. А цяпер, падзяліліся, што больш не могуць "цягнуць" гэту справу без дапамогі.

Першапачаткова мост быў неабходны для таго, каб пераводзіць пасвіцца на той бераг свойскую жывёлу: кароў, козаў. Адсюль і назва.

А яшчэ на мосціку, па словах Віталя, можна было сустрэць рыбакоў, грыбнікоў, бацькоў з дзецьмі, рамантычныя пары закаханых. Віталь з сынам часта каталіся тут на роварах.

– Мяркую, працэнтаў 60 гараджан карысталіся "Казіным" мосцікам, – дзеліцца Віталь.

Некаторым віляйчанам мост падаваўся ненадзейным. Магчыма, з-за гэтай ненадзейнасці не ўсе гараджане хочуць падтрымаць рэканструкцыю моста, мяркуе прадпрымальнік.

Ад сярэдзіны жніўня Віталь замовіў у мясцовага прадпрымальніка скрыні для ахвяраванняў на гэты мосцік. На іх размясцілі два фотаздымкі мосціка: класічныя "да" і "пасля".

Скрыні стаяць у некалькіх установах горада. Ёсць такая ў магазіне электратавараў у Доме быту, у Палацы культуры, у "Востраве чысціні", прадуктовых крамах на плошчы Свабоды. Хутка паставяць яшчэ дзве.

– Я адразу пайшоў у падатковую інспекцыю, удакладніў, што магу займацца зборам грошай. Пасля быў на прыёме ў старшыні райвыканкама. Ён нават узрадаваўся, што некага зацікавіла аднаўленне мосціка, – расказаў Віталь.

Па словах мужчыны, скрыні пакуль не адкрывалі. Гэта зробяць вясной. На яго думку, паўгода – гэта мала для збору грошай. Але не хочацца адцягваць, каб народ "не перагараў" ідэяй. Пакуль ёсць ахвотныя дапамагчы фізічна.

А гараджане патроху ахвяруюць. Пра вялікія сумы гаворка не ідзе. Нехта пяць капеек пакладзе, нехта – 50. Часам трапяцца і 20 рублёў. У бліжэйшы час прадпрымальнік плануе адкрыць банкаўскую картку. Можа, камусьці будзе больш зручна ахвяраваць на мосцік, не выходзячы з дома. Па падліках прадпрымальніка, для таго, каб зрабіць мост, трэба каля трох тысяч рублёў.

Віталь прыгадаў, што нядаўна лавіў рыбу недалёка ад таго месца, дзе стаяў мосцік, і сустрэў хлопчыка-рыбака. Хлопчык з вудай некалькі разоў паўтарыў, як шкада, што няма мосціка. Завязалася гутарка.

– Хлопчык сказаў тады, што і ён ахвяраваў, і бацька яго, і дзядзька, і іншыя сваякі, – прыгадаў Віталь. – А гэта яшчэ раз пераконвае, што мосцік патрэбны.

І ўсё ж сустракаюцца людзі, якія кажуць "разбурыўся мосцік – і забудзьцеся пра яго". Бачыў Віталь і такіх, хто нарадзіўся і жыве ў Вілейцы, але пра мосцік не чуў.

Сорак металічных паляў закупяць у фірме, якая займаецца ў Беларусі будаўніцтвам і рэканструкцыяй мастоў. Хутчэй за ўсё, да спецыялістаў гэтай фірмы будуць звяртацца і ў час аднаўлення моста.

– Ні я сам, ні іншыя гараджане, наколькі мне вядома, не могуць пахваліцца багатым досведам у мостабудаўніцтве, – жартуе мужчына.

Працы пачнуць, калі вада пацяплее, а гэта значыць, бліжэй да лета. Для мосціка абяруць месца, дзе не асабліва глыбока, каб было лягчэй і танней.

Якім жа будзе новы мосцік? Значна шырэйшым за стары. Па словах Віталя, каля метра. Аснова будзе металічная. Як распавёў субяседнік, з улікам сучасных тэхналогій металічныя палі могуць прастаяць у вадзе 60-80 год. Насціл будзе з дошак.

Пасярэдзіне моста плануюць зрабіць два выступы па баках. Яны будуць выконваць адразу некалькі задач. Па-першае, на адну з пляцовак можна будзе сысці, каб, напрыклад, размінуцца з чалавекам на ровары. Па-другое, гэтыя дзве пляцоўкі зробяць мост больш трывалым. А трэцяя функцыя – эстэтычная. Стоячы на пляцоўцы мосціка, гараджане змогуць глядзець на хвалі і берагі Віліі.

Для большай зручнасці новы мосцік зробяць з парэнчамі.

**Вольга Коласава**, старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея, мяркуе, што "Казіны" мосцік існуе ў горадзе вельмі даўно. – Свойскай жывёлы раней шмат трымалі, трэба ж было яе неяк на пашу перапраўляць, – кажа Вольга Аляксандраўна. – А паколькі той бераг Віліі ніколі не быў заселены, вось яго і выкарыстоўвалі для пашы. Побач з музеем жыве 90-гадовы віляйчанін, які распавядаў, як вадзіў сваіх козаў пасвіцца па гэтым мосціку.

Аксана ЯРАШОНАК.

Фота забяспечанае Дар'яй Ліс.

На адкрыцці новай пляцоўкі дзеці спаборнічалі, тэставалі арэлі і частаваліся.

# Мясцовы актывізм на Смаргоншчыне:

## у Залессі адкрылі дзіцячую пляцоўку

СМАРГОНЬ

**1 снежня ў Залессі, побач з будынкам мясцовай школы-сада, адкрылася новая сучасная дзіцячая пляцоўка.**

Яна з'явілася дзякуючы актыўным мясцовым жыхарам, у большасці маладым бацькам, якія згенерыравалі ідэю і знайшлі патрэбнае фінансаванне.

У выніку вырашылася важная для мясцовых маладых сямей з дзецьмі праблема – з'явілася новае месца для адпачынку і гульняў дзяцей на свежым паветры. Прэзентацыю зладзілі ў форме гульні.

Урачыстае адкрыццё дзіцячай пляцоўкі распачалося са спартакіяды. У эстафетах удзельнічалі вучні 1 класа і выхаванцы дзіцячага садка.

Заўзятарамі выступілі вучні-другакласнікі. Пасля было знаёмства з новай пляцоўкай. Дзеці "тэставалі" горкі і арэлі. Халоднае снежаньскае надвор'е не засмучала маленькіх наведнікаў. "А па вясне будзе яшчэ лепш", – перакананыя бацькі і педагогі мясцовай школы.

Скончылася адкрыццё салодкім пачастункам. Тут жа, на вуліцы, удзельнікі атрымалі цукеркі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Каб не сумаваць у вялікія выхадныя, падпішыся на "РГ"

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*

### Падпісацца можна:

✓ праз сайт "Белпошты".

Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".

✓ на пошце,

✓ праз паштальёна

✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі, на тры месяцы – 9 рублёў.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 9 рублёў, на тры месяцы – 27 рублёў.

14 снежня ў паштовым аддзяленні па вуліцы Прытыцкага ў Маладзечне вы зможаце задаць пытанні тым, хто робіць "РГ".

Цана са скідкай на месяц для індывідуальных падпісчыкаў роўная **2,40** рубля, для ведамасных – **8,29**.

## Стала вядома, як будзем адпачываць на Новы год і ўвогуле ў 2018-м

**Урад прыняў рашэнне пра перанос працоўных дзён у 2018 годзе.**

Працоўныя дні пераносяцца з аўторка, 2 студзеня, на суботу, 20 студзеня. Гэта значыць, што на Новы год мы будзем адпачываць чатыры дні – ад 30 снежня да 2 студзеня (субота – аўторак).

Нагадаем, што тры выхадныя мы будзем адпачываць ад 23 да 25 снежня 2017 года, калі адзначаецца Раство паводле грыгарыянскага і новаюліянскага календароў. Праваслаўнае Раство ў Беларусі прыходзіцца гэтым разам на нядзелю, 7 студзеня.

Працоўны дзень пераносіцца з пятніцы, 9 сакавіка, на суботу, 3 сакавіка (адпачываць будзем ад 8 да 11 сакавіка, чатыры дні).

17 красавіка – Радаўніца, таму панядзелак, 16 красавіка, пераносіцца на суботу, 14 красавіка, будуць тры выхадныя – ад 15 да 17 красавіка.

Працоўны дзень з панядзелка, 30 красавіка, пераносіцца на суботу, 28 красавіка (выхадныя 29 красавіка – 1 мая). 9 мая ў 2018 годзе будзе ў сераду.

Прадугледжаны таксама перанос рабочых дзён з панядзелка, 2 ліпеня, на суботу, 7 ліпеня (святы будуць ад 30 чэрвеня да 3 ліпеня, чатыры дні).

Таксама працоўны дзень з панядзелка, 24 снежня, перанясуць на суботу, 22 снежня (будуць тры выхадныя); з панядзелка, 31 снежня, на суботу, 29 снежня.

Арганізацыям даецца права з улікам спецыфікі вытворчасці (работы) пераносіць працоўныя дні ў іншым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам.

**Паводле прэс-службы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 30.11 | 7.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2,0039 | **2,0252** |
| Еўра | 2,3764 | **2,3956** |
| Злоты, 10 | 5,6599 | **5,6852** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4345 | **3,4387** |
| Грыўня, 100 | 7,4128 | **7,4703** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 29.11 | 6.12 |
| Еўра | 2.3700/2.3850 | **2.3850/2.4030** |
| Долар ЗША | 1.9950/2.0070 | **2.0160/2.0270** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | 29.11 | 6.12 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,45 | **2,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,98 | **7,13** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,20 | **4,00** |
| Селядзец, 1 кг | 4,00 | **3,85** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 2,80 | **2,80** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 3,85 | **3,99** |
| Баклажаны, 1 кг | - | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,30 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,30 | **0,55** |
| Капуста, 1 кг | 0,29 | **0,29** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,45 | **1,10** |
| Морква, 1 кг | 0,59 | **0,59** |
| Памідоры, 1 кг | 2,95 | **2,95** |
| Перац, 1 кг | 4,80 | **4,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Часнок, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **2,99** |
| Бананы, 1 кг | 2,10 | **1,79** |
| Вінаград, 1 кг | 2,99 | **3,95** |
| Гранаты, 1 кг | 3,40 | **3,49** |
| Грушы, 1 кг | 3,40 | **3,30** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,30 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,70** |
| Лімоны, 1 кг | 3,85 | **3,85** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,80 | **3,49** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,49 | **1,49** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00 | **7,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

ТЭМА НУМАРА

# Мінчанка, якая з'ехала ў ваду: "Гэта быў не шок, а валасок ад смерці"

МАЛАДЗЕЧНА

**30 лістапада ў вадаём Ізабеліна трапіла машына, за рулём якой знаходзілася маладая жанчына – Ганна Кульбіцкая-Крыж (на фота). Што перажыла ў момант падзення ў ваду Ганна, якая з патанулага аўтамабіля выбралася сама, ведае толькі яна.**





Фота Наталлі ТУР.

**Машыны Ганны з дарогі амаль не было відаць. Страшна ўявіць, што ў момант, калі жанчына крычала і клікала на дапамогу, па дарозе мчалі машыны, але яе ніхто не чуў.**

Але "Рэгіянальнай газеце" Ганна на наступны дзень пасля аварыі паспрабавала расказаць, што адбылося на закругленні дарогі Маладзечна-Гарадок:

– Усе падзеі, што адбыліся ўчора, – кажа Ганна, – я ўспамінаю праз сон. Памятаю, што ехала па нешырокай дарозе, паглынутая марамі і музыкай, і раптам…

Круты паварот, кола трапляе ў яму ля ўзбочыны. І вось я лячу з абрыву, працінаючы паветра крыкам, які вырваўся з грудзей, і падаю носам аўтамабіля ў пякуча-халодную ваду.

Гэта апошняе, што памятае Ганна па хвілінах, далей, прызнаецца жанчына, хвіліны для яе ператварыліся ў вечнасць. І ў імгненне адначасова.

– Я раптам ўсвядоміла, што мне ДАВЯДЗЕЦЦА памерці, бо дзверы адмаўляліся выпускаць, а вада бязлітасна паглынала мяне, закаваную ў кавалак жалеза. Божа!!! Думкі-каметы несліся з такой хуткасцю, што з'явілася лёгкае галавакружэнне. Успомніць б іх цяпер. Ах, так… Я памятаю, што сутаргава ўспамінала ўсе фільмы, прагледжаныя мною, спрабуючы ўспомніць, як выбрацца з машыны, якая тоне ў вадзе. Памятаю, як безнадзейна тузала дзвярныя ручкі і якой прыгожай была пры гэтым вада, са смарагдава-зялёнымі вяснушкамі.

Ці крычала ў той момант Ганна, ці прасіла прыйсці ёй на дапамогу, напэўна, так:

– Мой крык аб дапамозе быў нямы, але такой неверагоднай сілы, што, здавалася, ад яго ідуць дробныя дрыжыкі на воднай роўнядзі. Але каму крычаць? Не было нікога вакол! Ні душы!

Застаўшыся адзін на адзін з халоднай вадой, жанчына развіталася з жыццём:

– Вы не паверыце, я нават дзякавала Богу, што гэта адбываецца днём, пры ясным небе, а не ў поўнай цемры. Мне было б больш страшна. А так... Я магла яшчэ нешта ўбачыць, заўважыць, запомніць... Ведалі б вы, як мне захацелася яшчэ раз вясной прабегчыся босымі нагамі па полі, каб траўка весела казытала мне ножкі!!! Але, на жаль... Я не малілася, я не плакала. Я не спадзявалася ні на што. Горш за ўсё тое, што я змірылася. Мой разлік быў просты: нават калі міма праедзе машына, ніхто не заўважыць мяне, бо я ўжо амаль пад вадой. Стукала мокрымі далонькамі аб шкло. І пры ўдары прамаўляла: "Я хачу жыць!!! Я жыць хачу!

У Ганны ёсць 12-гадовы сын:

– Пад вадой, ужо амаль змірыўшыся з лёсам, адно мне не давала спакою: Што я скажу сыну, калі памру? Што я яму скажу? Чаму нам так мала адведзена часу разам? Не страшна было памерці, значна страшней разумець, што гэта ЎСЁ!!!

Калега Ганны, што прыехаў на месца здарэння, расказваў "Рэгіянальнай газеце", што яму патэлефанавала Ганна з крыкам: "Я ў вадзе".

Ганна кажа:

– Я памятаю, як шукала тэлефон і не памятаю, як ён апынуўся ў мяне ў руцэ. Але каму тэлефанаваць? Я зараз памру ў поўнай адзіноце, маладая і прыгожая, і мяне не хутка знойдуць. Можа, праз тыдзень дастануць з возера. Чаму няма нікога, каму хацелася б патэлефанаваць перад маім згасаннем? У вадзе выжыў толькі мой працоўны тэлефон, я нават не магла пазваніць сваім блізкім і родным, каб развітацца з імі. У працоўным тэлефоне: Кацяофіс, Саша Тураў, кафэ "Блэкдор", Ірына сыр, шмат невядомых... непатрэбных... Ніхто не дапаможа. Вада была па пояс, часу заставалася зусім крыху. Я яшчэ раз паспрабавала адкрыць дзверы, акно, але дарэмна. Апошняе, што я памятаю: "Сашааа, дапамажыце мне. Я паміраю, але не хачу! Я тут, на возеры. Мне засталося трохі... Вы не паспееце нават..." Далей я не памятаю амаль нічога. Вада стала вельмі цёплай…

Ганна кажа, што выбралася з машыны праз заднія дзверы.

– Але я пра гэта ўспомніла толькі на раніцу, учора не помніла, як выбралася.

Ганна падкрэслівае: тое, пра што расказвае, гэта маленькая спроба перадаць той жах і шок, які перажыла.

– Гэта не шок, гэта быў валасок ад смерці.

Ганна прызнаецца, што ад учарашняга дня ёй давядзецца адыходзіць яшчэ доўга.

– Апошні дзень восені стаў маім другім днём нараджэння. Будзе нагода сустракаць гасцей. І яшчэ я зразумела, што няма большай прычыны жыць, чым каханне.

**Ганна Кульбіцкая-Крыж асабліва дзякуе Аляксандру і Сяргею з "Акдзімола", якія першыя прыехалі на месца здарэння, а таксама начальніку ААТ "Балтсістэм" Аляксею Парусу за падтрымку і за тое, што перажываў.**

**Наталля ТУР.**

## МНС: калі вы леціце ў ваду, адкрывайце дзверы

Начальнік змены пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада Маладзечна **Ігар Іванскі** кажа:

– На шчасце, такія сітуацыі ў практыцы МНС здараюцца не часта. Ды і ўніверсальнай парады, як выратавацца з аўтамабіля, які тоне, няма. Адзінае, што трэба помніць: адшпіліцца на хаду і адкрыць дзверы, бо як толькі машына трапіць у ваду, шанцу адкрыць дзверы не будзе. Калі ў вас электрапад'ёмнікі шкла, то іх у вадзе адкрыць таксама немагчыма. І застанецца толькі спадзявацца на герметычнасць машыны.

Пасля таго, як гэты артыкул быў апублікаваны на нашым сайце rh.by, мы атрымалі каментар ад неабыякавага чытача. Ён настолькі падрабязна расказаў, як можна выратавацца ў такой сітуацыі, што мы не маглі надрукаваць яго адказ:

– Калі машына трапіла ў ваду і пачала тануць, то шанцы на выратаванне яшчэ застаюцца. МНСу – двойка, маглі б даць больш падрабязныя інструкцыі, як выратаваць жыццё ў дадзенай сітуацыі. Па-першае, памятаеце, што калі машына ўжо ў вадзе, то адкрыць дзверы не атрымаецца, бо на іх звонку ціснe вада. Таму адзіны шанец выбрацца жывым – гэта акно. Цалкам верагодна, што нават у вадзе электрашклопад'ёмнікі яшчэ будуць працаваць. У першую чаргу спрабуйце адкрыць акно. Калі нічога не атрымалася – спрабуйце яго разбіць. Не спрабуйце выбрацца праз лабавое шкло. Разбівайце бакавое шкло. Рукамі гэта зрабіць практычна немагчыма, выкарыстоўвайце любы цвёрды або завостраны прадмет, які можа апынуцца ў салоне – гаечны ключ, дамкрат, усё, што заўгодна. Калі няма нічога – біце шкло локцем. Жанчыны могуць скарыстацца абуткам на шпільках. Калі разбіваць бакавое шкло, то біце ў кут, бо ў цэнтры шкло будзе моцна "спружыніць", разбіць яго складаней. Яшчэ варыянт, чым разбіць шкло, – выцягвайце з сядзення падгалоўнік, у ім звычайна металічныя санкі. Можна паспрабаваць разбіць шкло санкамі, калі засунуць металічны штыр паміж шклом і дзвярыма і націснуць, шкло можа лопнуць.

Па-другое, калі вада запоўніла машыну, а шкло разбіць ніяк не атрымалася, ёсць апошні шанец выйсці праз дзверы. Калі салон запоўнены вадой, розніца ў ціску звонку аўтамабіля і знутры становіцца мінімальнай. Дзякуючы таму, што ціск выраўноўваецца, вы можаце паспрабаваць адкрыць дзверы. Памятайце, што яны лёгка не адкрыюцца. Магчыма, іх прыйдзецца выціскаць нагамі. Гэта апошні шанец выбрацца.

# Сустрэча з кумірам натхніла марыць пра "Еўрабачанне"

## Дзяўчынка на вазку Віялета Банковіч паспявае сустракацца з кумірамі, падарожнічаць і даваць майстар-класы

МАЛАДЗЕЧНА

**Майстар-класы для навучэнцаў Маладзечанскай спецыяльнай школы-інтэрната адбыліся ў цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" 2 снежня.**



З гуртам NaviBand.

Асаблівасцю аднаго з майстар-класаў было тое, што яго праводзіла 13-гадовая **Віялета Банковіч**. Дзяўчынка чацверты год вучыцца дома рукадзеллю пад кіраўніцтвам педагога цэнтра творчасці **Тацяны Рамановіч**. Асвоіла тэхнікі валення, дэкупажа, бісерапляцення і іншыя.

Віялета прапанавала дзецям стварыць сваімі рукамі навагоднюю цацку ў выглядзе каляднай шапачкі. Нягледзячы на юны ўзрост, дзяўчынка справілася з пастаўленай задачай. Змагла пераадолець хваляванне і праявіць усе якасці добрага выкладчыка, дапамагала і выпраўляла недахопы ў працы.

– Спачатку было крышачку страшна, а потым, як кажуць, увайшла ў смак, – падзялілася сваімі ўражаннямі Віялета. – Мне вельмі спадабалася праводзіць майстар-клас, і я з задавальненнем паўтарыла б такі досвед. Сваю шапачку павешу ў пакоі, каб потым успамінаць гэты цудоўны дзень.

Акрамя рукадзелля дзяўчынка займаецца графічным дызайнам і вакалам, з дзяцінства захапляецца музыкай. Юная выканаўца з'яўляецца ўладальніцай вялікай колькасці ўзнагарод, прывезеных з конкурсаў і фестываляў.

**Яшчэ адным хобі Віялеты з'яўляецца посткросінг. Дзяўчынцы прыходзяць паштоўкі з розных куткоў свету, напрыклад, з Германіі, Эстоніі, Расіі.**



Падчас дабрачыннай акцыі.

### Паштоўкай запрасілі ў іншую краіну

3 снежня Віялета ўдзельнічала ў канцэрце "Інклюзіўны музей: натхняючы адзін аднаго" з песняй "Што мяне чакае", арганізаваным Нацыянальным мастацкім музеем. На канцэрце выступалі беларускія артысты **Георгі Калдун**, група "Атлантыка" і іншыя.

– Толькі за першы месяц мне прыйшло больш за 150 паштовак. Я не чакала, што іх будзе так шмат. Некаторыя людзі адпраўлялі цэлыя падарункі, а аднойчы мне нават даслалі запрашэнне ў іншую краіну, – з захапленнем расказвае дзяўчынка.



Майстар-клас.

За апошні месяц у Віялеты адбыліся дзве самыя жаданыя сустрэчы ў яе жыцці. Дзякуючы акцыі Беларускага дзіцячага хоспіса яна сустрэлася з удзельнікамі "Еўрабачання" ад Беларусі групай NaviBand, змагла пагутарыць з бронзавым прызёрам паралімпійскіх гульняў **Аляксандрам Трыпуцём** і пераможцай конкурсу "Міс свету на вазку" **Аляксандрай Чычыкавай**.

У пачатку лістапада дзяўчынка і яшчэ трое дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі сталі ўдзельнікамі праекта "Казка дзецям". Яны адправіліся ў Маскву, дзе наведалі заапарк, планетарый і Красную плошчу. Але пра самы галоўны сюрпрыз Віялета даведалася ўжо ў Расіі. Гэта была сустрэча з яе кумірам, спявачкай **Юліяй Самойлавай**, прэтэндэнткай на "Еўрабачанне-2017".

– Я пагутарыла з Юліяй сам-насам. Яна адкрылася для мяне з новага боку. Высветлілася, што мы з ёй вельмі падобныя. Напрыклад, я вельмі здзівілася, калі даведалася, што мая любімая спявачка гэтак жа, як і я, марыла стаць графічным мастаком. Цяпер мне ўсе кажуць, што, магчыма, і я ў будучым вырашу прыняць удзел у "Еўрабачанні", – распавяла Віялета.

Па словах дзяўчынкі, гэтыя дзве паездкі моцна матывавалі яе на працу над сабой. Цяпер Віялета з падвоенай сілай працягвае спяваць, маляваць і дасягаць новых вяршынь. А на такіх сустрэчах, як цяперашні майстар-клас, яна не толькі ўдасканальвае свае навыкі, але таксама натхняе і матывуе іншых.

**Карына МІКЛУШЫС,**
**навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**
**Фота аўтара і Тацяны БАНКОВІЧ.**



# Парады, што выратуюць вам жыццё:

## Калі вы выцягнулі чалавека з ледзяной вады, ні ў якім разе не давайце алкаголь

**Лёд заўсёды небяспечны – гэта ведаюць усе, але, тым не менш, як толькі вадаёмы замярзаюць, некаторыя ідуць на тонкі лёд.**

Дзеці зачакаліся зімовых забаў. Рыбакі хочуць не прапусціць апошнюю лоўлю. А пачатак ледаставу – самы небяспечны перыяд.

**80% няшчасных выпадкаў на лёдзе адбываецца з нецвярозымі.**

Велізарную ролю павінны выконваць бацькі. Яны, як ніхто, ведаюць бліжэйшыя вадаёмы, маршруты і любімыя зімовыя забавы дзяцей. Пакуль лёд не дасягне сямі сантыметраў, не пускайце дзяцей на лёд. Сачыце за нестабільным надвор'ем.

### Што браць на лёд:

- ідучы на лёд, бярыце з сабой шнур з грузам на канцы, доўгую жэрдку або шырокую дошку;
- захапіце што-небудзь вострае, чым можна было б ухапіцца за лёд у выпадку, калі праваліліся (нож, бусак, вялікія цвікі);
- аранжавая камізэлька ярка выглядае і робіць вас заўважным. Тое, што трэба, каб вам паспелі дапамагчы.

Калі выпадае снег, берагавая лінія вадаёмаў становіцца нявызначанай, таму павялічваецца рызыка апынуцца ў вадзе. Сам снег цісне на ледзяную паверхню і зніжае яе трываласць. Памятайце пра падводныя плыні, скіды сцёкавых вод, водныя расліны. У такіх месцах таўшчыня лёду і яго трываласць прыкметна меншая. Хіба можна з упэўненасцю вызначыць, што пад снежнай паверхняй бяспечны тоўсты лёд ці далікатная ледзяная скарыначка?

Удвая небяспечнае праломліванне лёду для чалавека, які нясе цяжкі груз: заплечнік, напоўнены мех. Груз павялічвае нагрузку, спрыяе падзенню і перашкаджае выбрацца з вады на лёд. Перад тым, як выйсці на лёд, трэба аслабіць шлейкі заплечніка і перакінуць яго на адзін бок, а яшчэ лепш валачы на вяроўцы за 2-3 метры.

Трымайцеся бяспечнай адлегласці, калі ідзяце па лёдзе не адны.

### Калі лёд праламаўся:

- не панікуйце, скіньце цяжкія рэчы, трымайцеся на плыву, трымайце галаву высока над паверхняй вады, клічце на дапамогу;
- абапрыцеся на крыгу шырока расстаўленымі рукамі, пры моцнай плыні сагніце ногі, здыміце абутак, у які набралася вада;
- старайцеся не абломваць край лёду, навальваючыся на яго грудзьмі, па чарзе закідвайце ногі на крыгу.

Здараецца, пацярпелы не можа сам выбрацца з вады, у гэтай сітуацыі яму патрэбная тэрміновая дапамога. Рабіць гэта трэба неадкладна і вельмі асцярожна:

- узбройцеся любой доўгай палкай, дошкай, шастом або вяроўкай. Можна звязаць разам шалікі, рамяні ці вопратку.
- паўзком, шырока растаўляючы рукі і ногі і штурхаючы перад сабой выратавальныя сродкі, асцярожна рухайцеся ў кірунку да палонкі.
- спыніцеся ад пацярпелага ў некалькіх метрах, кіньце яму вяроўку, край адзення, падайце палку.
- асцярожна цягніце пацярпелага на лёд, разам паўзком выбірайцеся з небяспечнай зоны.

Завядзіце пацярпелага ў цёплае месца. Здыміце з яго мокрае адзенне, энергічна разатрыце цела да пачырванення скуры змочаным у спірце або гарэлцы анучай або рукамі, напаіце гарачым чаем. Ні ў якім разе не давайце пацярпеламу алкаголь – у падобных выпадках гэта можа прывесці да смяротнага зыходу.

**Дзмітры ГЕНЕРАЛАЎ,**
**старшыня Маладзечанскай арганізацыі Таварыства выратавання на водах.**




## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.**
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* Rh.by




**ПРАДАЕЦЦА**

- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Мерсэдэс МБ 100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Опель-Астра Ф, 1,6 мона, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Пежо-205, 605 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*
- Пежо-405, 1993 г.в, 1,6 бензін, торг. Т. МТС (8-033) 6330577.*
- Хундай-Лантра, 1993 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Зімовая гума на дысках для Аўдзі з калпакамі – 4 шт., R16 205х55. Т. (8-029) 7700689.*

**КУПЛЮ**

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДАРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Аўто ў любым стане. Дорага. **ПА ПРЫВАБНАЙ ДЛЯ ВАС ЦАНЕ**. Т. (8-029) 7087762.*
- Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052. *
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*
- Каталізатар б/у. Т. (8-029) 9357762.

**ІНШАЕ**

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 10 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

**ЗДАМ**

- Прыватнае прадпрыемства "ВіЛуГен" здае ў арэнду прычэп, высокі, даўжыня 2400, шырыня 1270, грузападымальнасць 450 кг. Цана за суткі 15 рублёў. Магчымая арэнда з аўтамабілем і вадзіцелем. Знаходзімся ў Вілейцы. УНП 691174184. Т. (8-029) 2224931.

**ПАСЛУГІ**

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*




**ПРАДАЕЦЦА**

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 2 паверх. Т. (8-029) 2746195.
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 1 паверх, 35 кв. м, раён Гелянова. Т. (8-044) 4529416.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 2 паверх, падвал, паркоўка. Т. Вэлком 324-65-69.*
- 2-узроўневы дом ў Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- 3-пакаёвая кватэра на першым паверсе. Падрабязнасці па тэлефоне. Т. (8-029) 6333777, (8-029) 6888111.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Кастрычніцкай, 42. Магчымы абмен на 1-пакаёвую кватэру + даплата. Т. (8-033) 6452435.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, м-н "Зеніт", з заключэннем дагавора. Т. (8-029) 6550799.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён Зеніт. Т. (8-029) 6305419.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 2/5, побач гімназія №10, парк, магазіны,ёсць зручная паркоўка. 98 000 рублёў. Т. (8-029) 8726237.*
- Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*
- Гараж у ГБК-4 "Зеніт", насупраць чыгуначнага прыпынку ў Вілейцы, памер 3х6 м, ёсць яма, сцяжка падлогі бетонная. Столь падшытая, дзверы уцепленыя. Ёсць тэхпашпарт. Т. (8-029) 6585886, (8-029) 5571454.
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Дом у Вілейцы, у цэнтры горада, на беразе ракі Вілія, прысядзібны ўчастак 10 сотак. Т. (8-029) 6350439.

**ЗДАМ**

- 2-пакаёвую кватэру на доўгі тэрмін у Вілейцы. Т. (8-033) 6368637.*
- **3-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, раён Зеніта.** Афармленне дагавора. Т. (8-029) 6550799.

# Якасць "Bosch". Цэны "Батрыкс". Шчасце аўтааматара

**Той, хто на паліцах магазінаў бачыць рэчы фірмы "Бош", ведае, што за гэтым кароткім словам хаваецца якасць і надзейнасць. А ці задумваліся вы, што, акрамя якасці, за словам "Бош" хаваецца вялікая гісторыя гэтай кампаніі, якая доўжыцца ўжо 130 гадоў.**

У далёкім 1886 годзе Роберт Бош адкрывае сваю фірму, якую называе "Майстэрня дакладнай механікі і электронікі". Хаця фірма на той час займалася продажам электраабсталявання, лічыльнікаў узроўню вады, простых тэлефонных апаратаў, але ўжо тады Роберт агучыў дэвіз сваёй фірмы "Прадаваць лепшае з лепшага".

Гэтаму дэвізу фірма верная і па сённяшні дзень. Цяпер цяжка падлічыць, колькі бытавой тэхнікі выпускаецца пад маркай "Бош", а вось у сярэдзіне 20 стагоддзя зрабіць гэта было проста.

З'явіўся ў 1933 годзе першы халадзільнік – гэта "Бош", паступіў у продаж у 1950 годзе першы міксер – гэта "Бош". У 1958-м з'яўляецца першая пральная машына – гэта "Бош". У 60-х гадах паступіла ў продаж першая ўбудаваная кухонная пліта – гэта "Бош".

І гэта што датычыцца бытавой тэхнікі.

Кожны ж аўтамабіліст ведае, што запчасткі і аксесуары "Бош" – адныя з самых надзейных і якасных. Аўтааматары могуць выбраць фільтры, шкло-ачышчальнікі, свечкі запальвання, тармазную сістэму, святлатэхніку, гукавыя сігналы, розныя датчыкі, стартэры і генератары, рулявыя сістэмы і шмат чаго іншага. А яшчэ і акумулятары.

Новае пакаленне акумулятараў "Бош" валодае не толькі падвышанымі пускавымі токамі і павялічаным тэрмінам службы, але і з'яўляецца самым высокім стандартам камфорту і бяспекі аж да драбнюткіх дэталяў.

Аўтааматары могуць выбраць акумулятары і для легкавых, і для грузавых аўто, а таксама для матацыклаў. І дапамогуць вызначыцца з выбарам у "Батрыксе".

Вам патлумачаць, што ў акумулятарах "Бош", акрамя традыцыйнай, прымяняецца тэхналогія AGM (абсарбавальнае шкловалакно). А гэта лепшая з тэхналогій, прапанаваных сёння на рынку. Спецыяльныя шкловалакольныя ўкладышы шчыльна прылягаюць да свінцовых пласцін акумулятарнай батарэі AGM, звязваюць увесь электраліт. Высокі ціск зводзіць да мінімуму страты актыўнай масы, забяспечваючы вельмі нізкае ўнутранае супраціўленне. Паскарэнне рэакцыі паміж электралітам і матэрыялам пласцін забяспечвае перадачу большай колькасці энергіі ў тых сітуацыях, калі гэта неабходна.

Магчымасць зарадкі ў дынамічным рэжыме і чатырохразовая цыклічная ўстойлівасць у параўнанні з традыцыйнымі стартэрнымі акумулятарнымі батарэямі сведчаць аб яе адпаведнасці самым высокім патрабаванням.

Акумулятары "Бош" маюць больш працяглы тэрмін службы ў параўнанні з традыцыйнымі стартэрнымі акумулятарнымі батарэямі, пастаяннае электразабеспячэнне нават пры паездках на кароткія адлегласці, руху з частымі прыпынкамі і пры высокім спажыванні электраэнергіі ў нерухомым стане.




Паміж гэтымі дзвюма рэкламамі фірмы "Бош" амаль стагоддзе. Мяняецца ўсё, нязменная толькі якасць.




Такія акумулятары ўстойлівыя да цыклаў зараду-разраду ў чатыры разы вышэй у параўнанні з традыцыйнымі акумулятарнымі батарэямі.

Набліжаюцца халады. Замена акумулятара ў гэты час пазбавіць вас ад праблем на дарозе ў зімні перыяд.

Вам не давядзецца марнаваць час, чакаючы таго, хто б мог "прыкурыць" вам акумулятар.

Звяртайцеся ў "Батрыкс", беражыце сябе, свае нервы, свае грошы і свой аўтамабіль. І памятайце, што ўжо больш за 130 гадоў слогану кампаніі "Бош" – "Вынайдзена для жыцця", "Бездакорна. Bosch".

А фірме, якая больш за стагоддзе мае такі поспех, можна верыць.

А слоган фірмы "Батрыкс" – "Вы не расчаруецеся ў пакупцы". Ну, гэта так, да ведама.

**ТАА «Батрыкс»,**
**г. Маладзечна, вул. Гарадоцкая, д.104.**
**Тэл. (0176) 58-12-48,**
**Velcom (029) 636-31-66,**
**МТС (033)323-02-17.**
**www.batrix.by**

УНП 691893243

# Біткойны – што гэта за звер?

## І чаму чалавек, які купіў за іх піцу, кусае сабе локці

МАЛАДЗЕЧНА

**Жыццё сучаснага чалавека ў многіх сферах перамясцілася ў віртуальную рэальнасць.**

І інтэрнэце мы цяпер не толькі знаёмімся і набываем танныя кітайскія рэчы, але глядзім фільмы, у рэальным часе сочым за падзеямі, якія адбываюцца на другім канцы свету.

Мы прывыклі да гэтага. Таму не дзіўна, што знайшліся людзі, якія захацелі зарабляць у інтэрнэце.

**Папярэджваем, што ў тэксце шмат новых, незнаёмых слоў.** У сувязі з гэтым былі прыдуманыя і лічбавыя грошы, якія нельга ўзяць у рукі. Гэта так званая крыптавалюта, якая бывае розных відаў. Аднак сярод некалькіх дзясяткаў электронных манет найбольшую папулярнасць набылі біткойны. Для іх стварэецца спецыяльны віртуальны кашалёк, а саму валюту можна здабываць, інакш кажучы, майніць. Такі заробак віртуальных грашовых сродкаў сёння вельмі папулярны.

На гэтым тыдні была інфармацыя пра тое, што з'явіліся першыя біткойныя мільярдэры, а курс гэтай валюты расце так імгненна, што не паспяваеш міргнуць вокам. Пра біткойны нават сталі пісаць вершы. Адзін з самых вядомых аўтарства **Сяргея Шнурава**:

*Не встретить*
*старость мне спокойно.*
*Это судьба, или стезя?*
*Все ринулись скупать*
*биткойны,*
*И я немножко тоже*
*взял.*

Спрабаваць зарабляць на біткойнах можа кожны, але спачатку мы паспрабуем адказаць на пытанне, што ж гэта такое. Адказам з дапамогай маладзечанца **Мікіты Васілеўскага**, які пачаў займацца крыптавалютай два гады таму. І сёння мае сваю ферму крыптавалюты.

> – Пачалося ўсё ў канцы 2015 года, калі майму сябру на дзень нараджэння падарылі біткойны. Тады і з'явілася цікаўнасць, што гэта.

Бо тады курс быў ужо 360 долараў, а ў нашай кампаніі быў хлопец, які незадоўга купляў іх па пяць долараў.

Цяпер дзень Мікіты пачынаецца з прагляду старонкі біржы, дзе ён пільна сочыць за курсам гэтай "валюты".

### Па сваёй сутнасці біткойн – гэта электронныя грошы

Калі казаць простымі словамі, то можна прывесці ў якасці прыкладу торэнты. Яны працуюць па ідэнтычнай схеме. Карыстальнік усталёўвае на сваім камп'ютары праграму. Уладальнік іншага камп'ютара робіць тое самае. Пры гэтым яны з лёгкасцю могуць адзін аднаму перадаваць розныя файлы. Над імі няма старонняга кантролю. Сістэма біткойнаў і біржы, на якіх іх прапануецца майніць (гэта значыць, здабываць электронныя сродкі), працуюць такім жа чынам.

**– Чым жа гэта валюта такая асаблівая?**

– У першую чаргу варта адзначыць, што разлікі канца празрыстыя. Усе плацяжы ў рамках сэрвісу могуць адсочвацца. Уся гісторыя транзакцый у праграме фіксуецца. Яшчэ адно прынцыповае адрозненне біткойна і іншых крыптавалют ад грошай – лёгкі доступ да іх. Дастаткова толькі стварыць свой электронны кашалёк. Яшчэ адна асаблівасць крыптавалюты ў тым, што ў ёй няма цэнтралізацыі. Напрыклад, як нацыянальны банк выстаўляе курс валют, курс становіцца цэнтралізаваным. У крыптавалюце такога няма, ніхто не можа блакаваць той ці іншы кошт, неяк карэктаваць колькасць валюты ў сістэме ў цэлым. Ніхто са старонніх карыстальнікаў не можа блакаваць альбоануляваць плацяжы. Колькасць біткойнаў абмежаваная.

> **Прынята лічыць, што да 2140 года выпусцяць толькі 21 мільён біткойнаў.**

І ўсё, больш іх не будзе, таму можна гаварыць пра тое, што курс гэтай валюты будзе расці і надалей.

Сёння біткойны – гэта прамысловая валюта. Каб валодаць хаця б адным біткойнам, 7 снежня трэба было выкласці амаль 12 тысяч долараў.



Фота Наталлі ТУР.

Да мільярдэра па біткойнах Мікіту Васілеўскаму яшчэ далёка, але ён не сумуе. Займаецца крыптавалютай, бо гэта цікава і нова для яго.

– Я ездзіў на семінары па біткойнах у Мінск, – працягвае Мікіта, – у іх удзельнічаў мужчына, які прадаў сваю трохпакаёвую кватэру і купіў біткойны. Дык вось цяпер ён можа купіць сабе тры трохпакаёўкі. Сярод удзельнікаў семінара было шмат людзей узростам каля 50 гадоў, якія зарабляюць на біткойнах, каб забяспечыць сабе бязбедную старасць.

> **Свае ж біткойны Мікіта патраціў на тое, каб з'ездзіць з жонках на адпачынак.**

– А я ведаю людзей, якія патрацілі свае біткойны на нейкія забавы: гульні, замову ежы.

Мікіта працуе барменам у адной з маладзечанскіх кавярняў. І ён быў ініцыятарам таго, што ў кавярні можна было разлічвацца біткойнамі.

– Ну, гэта не зусім разлік. Тут іншая схема, але па факце так, мы рабілі чалавеку 100% зніжку, а ён пералліваў нам сатошы – гэта як капейка, толькі ў біткойнах. Доля біткойна. Названая па імені стваральніка біткойна **Сатошы Нікамота**.

Вяртаючыся да гаворкі пра тое, чаму біткойн сёння – гэта прамысловая валюта, Мікіта кажа, што, каб майніць (здабываць) біткойны, патрабуецца вялізная магутнасць камп'ютараў. І, як вынік, – вялікія энергазатраты.

– У мяне была невялічкая ферма біткойнаў, дык гэта ферма раўла як самалёт, немагчыма было знаходзіцца ў кватэры. Давялося ферму прадаць. Цяпер я займаюся эфірыўмамі.

> **Майніць біткойны цяпер выгадна таму, хто мае доступ да таннай электраэнергіі. Хаця я думаю, што адзіны спосаб зарабляць на біткойнах у Беларусі – гэта гуляць на біржы.**

### Што такое майнінг і блокчэйн?

Усе нармальныя людзі, якія хочуць мець біткойны, абавязкова зададуцца пытаннем: а як самому зарабіць гэту валюту? Гэта і называецца майніць, або зарабляць. Адпаведна, сама працэдура здабычы называецца майнінгам.

Па сваёй сутнасці майнінг біткойнаў – гэта метад перабору лікаў. Для кожнага з іх вылічаецца хэш. Калі падабраны варыянт адказвае вызначанаму шаблону, то карыстальнік атрымлівае новую адзінку лічбавай валюты. Менавіта так і ажыццяўляецца здабыча біткойнаў.

Аднак варта ўлічваць, што шаблон можа быць розная складанасць. Лічыцца, што з часам майніць будзе ўсё складаней.

– Ужо сёння адна транзакцыя затрачвае энергіі столькі, колькі б затраціў адзін дом у суткі, у якім жыве сям'я з трох чалавек.

На рынку з'яўляецца попыт на фермы, цэны на іх, адпаведна, узлятаюць уверх.

Тэхналогія блокчэйн – гэта неад'емная частка майнінга крыптавалюты. Па сваёй сутнасці, яна з'яўляецца інструментам, на базе якога карыстальнікі імкнуцца здабываць лічбавыя грошы.

Калі казаць самымі простымі словамі, то блокчэйн-тэхналогія выступае велізарнай базай дадзеных. Яе асаблівасць заключаецца ў тым, што яна выдатна абароненая ад узлому. Пры гэтым поўную копію гэтай базы атрымлівае кожны майнер. Праўда, даецца карыстальнікам яна ў зашыфраваным выглядзе.

### Якія перспектывы ў крыптавалюты?

– Я мяркую, што курс біткойна будзе расці. Хаця некаторыя мае сябры, якім я расказваў пра гэта, адмахваюцца і параўноўваюць біткойны з МММ. У будучыні, як адзначаюць многія эксперты, біткойн дасць магчымасць добра зарабіць на таргах.

**– Ці можа так здарыцца, што крыптавалюта абясцэніцца?**

– Гэта адно з самых распаўсюджаных пытанняў. У тэорыі, канешне, магчымы і рост курса, і яго падзенне. Аднак добрая дынаміка, уцягнутасць у праект вялікай колькасці карыстальнікаў, адсутнасць дзяржаўнага кантролю і інфляцыі не дадуць гэтаму адбыцца.

Лічыцца, што забарону біткойнаў уладамі можна параўнаць хіба што з забаронай на само выкарыстанне інтэрнэту.

> **Так што наўрад ці электронная валюта ў найбліжэйшай будучыні страціць сваю папулярнасць і выйдзе з віртуальнага абароту.**

– А ў Беларусі, да таго ж, айцішнікам плануюць даць зялёнае святло. Варта ўсё ж павучыцца абыходзіцца з біткойнамі і іншай крыптавалютай. Тым больш, для гэтага цяпер ладзіцца шмат семінараў, ёсць відэаўрокі, навучанне на сайтах накшталт "Форэксу" і гэтак далей. Так што зарабляць на біткойнах, сапраўды, зможа кожны.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-
566-26-99
(працоўны)

# Каб кожны Коласа пачуў: у Ілы правялі вечарыну да юбілея класіка

**Ільянская школа ў чарговы раз ушаноўвала памяць песняра беларускага народа Якуба Коласа. 2017 год – юбілейны для ўсёй нашай краіны: 135 год таму нарадзіліся адразу два яе класікі**

*Жыві, мілы Колас.*
*Многа летаў, зімаў*
*З ясным сонцам*
*побач*
*На зямлі радзімай*

Такімі радкамі **Янкі Купалы** пачалася літаратурна-музычная кампазіцыя "Каб кожны Коласа пачуў".

У святочна афармленай зале сабраліся вучні 5-11 класаў, настаўнікі.

Пад мелодыю песні "Мой родны кут" у выкананні ансамбля "Песняры" з прывітальнымі словамі выйшлі на сцэну вядучыя-дзевяцікласнікі **Юлія Усціновіч** і **Артур Забаронак**, вучні 9 класа.

Вучні дзясятага **класа Юлія Анасовіч, Максім Вайцяхоўскі, Яўгенія Краўчонак, Уладзіслаў Сыракваш, Глеб Суднікоўскі, Кірыл Яцэвіч** выступілі ў ролі даследчыкаў. Напярэдадні яны пазнаёміліся з біяграфіяй паэта і падрыхтавалі для гледачоў змястоўную прэзентацыю "Дарогамі Якуба Коласа".

А вучні пятых, шостых і сёмых класаў чыталі вершы Якуба Коласа. Вядомыя коласаўскія радкі гучалі са сцэны з вуснаў **Максіма Ярашонка, Юліі Каржэвіч, Ксеніі Маскаленкі, Ягора Забаронка, Паўла Мікуцкага, Мікалая Чарняка**.

Спадзяюся, гэта імпрэза дапамагла вучням яшчэ раз узгадаць жыццёвыя і творчыя шляхі народнага класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа, адчуць гонар за свой край, сваю зямлю.

**Валянціна ЯРАШОНАК,**
**кіраўнік музея "Вілейшчына літаратурная"**
**Ільянскай сярэдняй школы імя Грымацэ.**

## Заканчвай другую чвэрць на дзявяткі і дзясяткі

Заканчваецца самая кароткая і самая святочная другая чвэрць. Часу на добрыя адзнакі было менш і ўсё ж...

Атрымлівайце 9 і 10 па любых прадметах, запаўняйце бланкі з газеты, дасылайце ў рэдакцыю. Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа!

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Удзельнічаць у акцыі могуць вучні любой школы ці гімназіі рэгіёна, якім споўнілася 12 год.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за гэты навучальны год. На кожную адзнаку трэба асобны бланк. Прымаюцца толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by:
rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№49)

1. Імя, прозвішча ____________________
2. Дата нараджэння ____________________
3. Клас
   Школа ____________________
4. Населены пункт ____________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі ____________________
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ____________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10") ____________________
8. Дата атрымання адзнакі ____________________
9. Імя, імя па бацьку ____________________
10. Прозвішча настаўніка ____________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам ____________________
12. Подпіс настаўніка ____________________




З Іосіфам Бродскім сённяшні жыхар Маладзечна сустрэўся ў 1964 годзе ў Архангельскай вобласці.

# Лаўрэат, паэт, дармаед:

## маладзечанец дзеліцца ўспамінамі пра Іосіфа Бродскага

МАЛАДЗЕЧНА

**– Я – дармаед. Чакаю супрацоўніка міліцыі, які ажыццяўляе за мной нагляд, – так мне прадставіўся будучы Нобелеўскі лаўрэат па літаратуры паэт Іосіф Бродскі.**

Пазнаёміліся мы, калі я працаваў следчым у горадзе Каноша, што знаходзіцца ў Расіі, у Архангельскай вобласці. Ішоў 1964 год. На дварэ стаяла кароткае паўночнае лета.

### Разам адбывалі "ссылку"

Падчас той першай сустрэчы Бродскі распавёў, што высланы з Ленінграда, цяперашняга Санкт-Пецярбурга. Я адказаў яму, што таксама прыехаў сюды з гэтага горада на працу пасля заканчэння вучобы. Пажартаваў яшчэ, што разам будзем адбываць ссылку.

У тыя часы нямала людзей высылалі на поўнач па артыкуле "за дармаедства". Дармаедамі лічыліся людзі, якія не займаліся грамадска-карыснай працай і вялі антыграмадскі, паразітычны лад жыцця. Звычайна, яны не адрозніваліся ўзорнымі паводзінамі. Але сярод іх былі і "белыя вароны". Менавіта да такіх належаў Іосіф Бродскі.

Ён вылучаўся камунікабельнасцю, начытанасцю, інтэлігентнасцю. Я неаднаразова гутарыў з ім, у тым ліку, і пра паэзію. Па словах паэта, вершы ён пачаў пісаць, калі яму было каля 18 гадоў.

Неяк у гутарцы я заўважыў, што ягоныя вершы не кожнаму розуму даступныя. На гэта ён адказаў, што не абавязаны размаўляць моваю, якой размаўляюць усе. У раённай газеце на той час надрукавалі два яго вершы "Восеньскае" і "Трактары на світанні".

### "А ці надоўга?"

Аднойчы ў калідоры аддзела ўнутраных спраў мы размаўлялі. Перад намі вісела насценная газета, у якой быў змешчаны мой верш "Сучасніку", прысвечаны Кастрычніцкай рэвалюцыі:

*Пусть тебе немного*
*и завидно,*
*Что в то время ты*
*ещё не жил.*
*Торжество идей*
*социализма*
*Без тебя Октябрь*
*возвестил.*
*Я надеюсь, празднику*
*все рады,*
*Одинаково он дорог*
*вам и мне.*
*Пусть мы с вами и не*
*слышали раскаты*
*Выстрела "Авроры"*
*на Неве.*

Іосіф прачытаў услых першыя чатыры радкі і збянтэжыў мяне пытаннем: "А ці надоўга?", маючы на ўвазе ідэі сацыялізму. Я не звярнуў на гэта ўвагу, не стаў з ім спрачацца.

Амаль палова чалавецтва на той час ішла па шляху будаўніцтва сацыялізму, і якія маглі быць сумненні? Але Бродскі, відаць, быў празорцам, умеў прадбачыць ход развіцця грамадства.

### Кашуля для міліцыянера

Прыгадваецца і такі выпадак. Аднойчы сярод адміністрацыйна арыштаваных я ўбачыў Бродскага. Аказалася, што па рашэнні суда яго асудзілі на 15 сутак за дробнае хуліганства. Падставай для такога рашэння стала заява адміністрацыі саўгаса, дзе Іосіф Бродскі працаваў.

Усе цяжкасці, нягледзячы на кепскае здароўе, ён пераносіў мужна. У ягонай сітуацыі любыя пратэсты былі бессэнсоўныя.

Пра тое, што Іосіф Бродскі быў добрым чалавекам, можна меркаваць па такім факце. У верасні 1965 года пад ціскам савецкай і сусветнай грамадскасці яго вызвалілі з месца ссылкі. Пакідаючы гэты невялікі паўночны горад, Бродскі падарыў супрацоўніку міліцыі, які ажыццяўляў за ім нагляд, новую кашулю.

Міліцыянер далажыў пра гэта свайму начальніку. Той параіў яму вярнуць падарунак Бродскаму. Ужо на вакзале міліцыянер растлумачыў паэту сітуацыю, падзякаваў і вярнуў кашулю.

У 1972 годзе, пазбаўлены савецкага грамадзянства, Бродскі назаўсёды пакінуў радзіму. Па працэсу 1964 года быў рэабілітаваны.

У 1995 годзе яму прысвоілі званне ганаровага грамадзяніна Санкт-Пецярбурга. Памёр у студзені 1996 года ў Нью-Ёрку. Пахаваны ў Венецыі.

**Даведка "РГ". Іосіф Бродскі** (1940-1996) – рускі і амерыканскі паэт, эсэіст, драматург, перакладчык, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1987 год), паэт-лаўрэат ЗША (1991-1992 гады). Вершы пісаў па-руску, эсэістыку – па-англійску.

**Іван СПІРЫДОВІЧ,**
**Маладзечна.**



Фота з сямейнага архіва Яўгена РОГАЧА.

16-ы цэх завода "Спадарожнік" святкуе 60-я ўгодкі Кастрычніка.

● СТАРЫ АЛЬБОМ

# На парад у гонар 60-годдзя рэвалюцыі ўзяў "маўзер" сына, кабуру зрабіў з фанеры

МАЛАДЗЕЧНА

**На гэтым здымку работнікі 16-га цэха маладзечанскага завода "Спадарожнік" 7 лістапада 1977 года – слесары, рэгуліроўшчыкі, майстры. Усе яны сабраліся сфатаграфавацца адразу пасля парада на плошчы.**

Здымак з сямейнага архіва ў рэдакцыю прынёс **Яўген Рогач**. Яго 30-гадовы тата на фота **Эўгеніюш Мечыслававіч Рогач** трымае транспарант з правага боку ў флоцкай форме.

Здымак зрабіў **Іван Дзіканаў**, слесар-зборшчык і фотааматар. Здымаў на фотакамеру "ФЭД" святкаванне 60-х угодкаў рэвалюцыі.

Яны стаяць каля палітэхнікума, на "Брадвеі", вуліца Прытыцкага. У той час гэта яшчэ не была пешаходная вуліца, там ездзілі машыны і стаялі святлафоры.

Удзельнікі прыходзілі на парад у адмысловым касцюме, некаторыя доўга шукалі, у што апрануцца. Знаходзілі шынялі, некаторыя самі рабілі кіцелі. У іншых пасля дэмбеля заставаліся фуражкі.

16-ы цэх апрануўся ў ваенныя ўборы, іншыя – у нацыянальныя касцюмы узбекаў, казахаў, паказваючы шматнацыянальнае брацтва.

На здымку ёсць хлопчык. Яўген кажа, што гэта, хутчэй за ўсё, сын майстра Дзегцярова – аднаго з работнікаў цэха. Ён, напэўна, адзіны, хто здымаўся без ваеннага ўбору.

Эўгеніюш хаця і служыў у Краснаярску ў войсках супрацьпаветранай абароны, на парад прыйшоў у форме брата. **Сільвестр** жыў у Мурманску пасля марахода. Яго кіцелі віселі ў шафе ў бацькі **Мечыслава**, які жыў у Жодзішках.

> **Эўгеніюш на свята апрануў форму брата, зрабіў сабе кабуру з фанеры і паклаў туды дзіцячы маўзер, які пазычыў у трохгадовага сына Жэні.**

Работнікі завода зрабілі макет кулямёта з металу, нават відаць, што ён заводскай зборкі.

– Гэта была нагода прыйсці дадому нападпітку, – расказвае Яўген. – Хаця і былі тут некаторыя з чырвонымі павязкамі, дружыннікі. Ім казалі, што вы, хлопцы, не разыходзьцеся пасля парада, дапамажаце міліцыі захоўваць парадак. Калі хто і напіваўся, яго вялі дахаты, а не ў міліцыю.

Эўгеніюш працаваў рэгуліроўшчыкам радыёапаратуры. Жонка – настаўніцай нямецкай мовы.

У сям'і была і старэйшая дачка. Кватэра месцілася на цяперашняй вуліцы Францыска Скарыны, якая называлася Юбілейнай.

## Рэгуляваў апараты радыёсувязі

На "Спадарожніку" Эўгеніюш прапрацаваў усё жыццё. На пенсію выйшаў у 60 год. У апошнія гады нават не рабілі радыётэлефоны сістэмы сувязі "Алтай" – магчымасць размаўляць па тэлефоне з машыны.

Такія тэлефоны ставілі ў машыны "хуткай дапамогі", старшыням калгасаў. Адна з бліжэйшых радыёвышак, якая забяспечвала сувязь, стаяла ў Вільні.

Да Маладзечна яна не цягнула, тут пабудавалі сваю, як прыгадвае суразмоўца, у Турэц-Баярах.



Фота itc.ua.

**Даведка "РГ".** Сістэма сувязі "Алтай" – савецкая сістэма радыётэлефоннай сувязі з перасоўнымі аб'ектамі. Доследная зона сістэмы была запушчаная ў Маскве ў 1963 годзе. У Варонежы сістэма дзейнічала да канца 2011 года, была закрытая з эканамічных прычын.

> **Старшыня калгаса мог адусюль, дзе цягнула вышка, а па Саюзе іх было шмат, спакойна размаўляць нават з поля.**

Сувязь патрабавала абслугоўвання, і Эўгеніюш часта выпраўляўся ў камандзіроўкі, аб'ездзіў Саюз ад Архангельска да Ташкента, часта ездзіў у Вільню. Ён як рэгуліроўшчык настройваў абсталяванне. Апошняя камандзіроўка адбылася якраз падчас путча 1991 года.

– Шмат хлопцаў з яго брыгады, з якімі сябравалі сем'ямі, – прыгадвае сын. – А цяпер з рэгуліроўшчыкаў мала хто яшчэ жыве. Для бацькі ж сёлета 7 лістапада – звычайны дзень. Можа, паглядзеў па тэлевізары ўскладанне вянкоў. Я не памятаю, каб ён збіраўся з камуністамі пад Леніным.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● КАЛЯНДАР

### 8 СНЕЖНЯ

**90 гадоў** з дня нараджэння **Віктара Карпілава** (1927 – 1994), беларускага рэжысёра, акцёра, рэжысёра рэдакцыі літаратурна-драматычных перадач Беларускага тэлебачання, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. Нарадзіўся ў Мінску. Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Служыў у Рускім тэатры БССР. Ад 1956 года – рэжысёр Рэспубліканскай студыі тэлебачання. Адначасова з 1969 года выкладаў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце, у якім працаваў да 1988 года (заснаваў курс тэлевізійных рэжысёраў).

**1432.** 585 гадоў назад пад Ашмянамі адбылася бітва паміж вялікімі князямі Свідрыгайлам і Жыгімонтам. Загінула больш за 10 тысяч чалавек.

### 9 СНЕЖНЯ

**1891.** Нарадзіўся **Максім Багдановіч** (г. Мінск), паэт, перакладчык, крытык, класік беларускай літаратуры.

### 10 СНЕЖНЯ



**1870.** Нарадзіўся **Фердынанд Рушчыц** (маёнтак Багданава, цяпер Валожынскі раён), польскі і беларускі мастак, педагог, тэатральны дэкаратар.

**1865.** Расійскі царскі ўрад забараніў асобам каталіцкага веравызнання і "польскага паходжання" купляць і арандаваць зямлю на Беларусі.

### 11 СНЕЖНЯ

**1959.** У Маладзечне на Цэнтральнай плошчы усталявалі помнік Леніну.

**1964.** У Маладзечне прыняты ў эксплуатацыю будынак чыгуначнага клуба.

### 12 СНЕЖНЯ



**1586.** Памёр **Стафан Баторы**, вялікі князь літоўскі і кароль Рэчы Паспалітай. Новым каралём абраны Жыгімонт III Ваза. Нарадзіўся 27 верасня 1533 года.

### 13 СНЕЖНЯ

**1894.** Як указана ў выдавецкіх звестках, у Познані (цяпер Польшча) выйшаў паэтычны зборнік "Смык беларускі" Францішка Багушэвіча.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Расклад руху цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін ад 10 снежня




| **Маладзечна - Гудагай** | | | | **Гудагай - Маладзечна** | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| №цяг-ніка | Час ад-праў-лення | Час пры-быцця | Даты руху, кірун-кі, прыпынкі | №цяг ніка | Час ад-праў-лення | Час пры-быцця | Даты руху, кірун-кі, прыпынкі |
| **6103** | 06:15 | 07:38 | **штодзённа з Мінска** | **6108** | 04:24 | 05:44 | **штодзённа да Мінска** |
| **6107** | 08:32 | 09:55 | **штодзённа з Мінска** | **6112** | 06:00 | 07:20 | **штодзённа да Мінска** |
| **6883** | 12:15 | 13:12 | **у рабочыя** да ст. СОЛЫ б/п Гаўці | **6116** | 08:23 | 09:43 | **штодзённа, далей да Мінска, да ст. Алёхнавічы з усімі прыпынкамі, далей па станцыях, п.п. Лябяжы, Масюкоўшчына** |
| **6117** | 13:02 | 14:24 | **з Мінска** па суб., ндз. | **6882** | 10:26 | 11:46 | **штодзённа** |
| **6121** | 16:05 | 17:28 | **штодзённа** з Мінска | **6884** | 13:34 | 14:28 | **па рабочых днях ад ст. Солы б/п** Гаўці |
| **6125** | 18:10 | 19:33 | **штодзённа** з Мінска | **6128** | 15:23 | 16:43 | **суб., нядз.** |
| **7035** | 19:29 | 20:39 | **штодзённа Мінск-Маладзечна з прып**. Мінск-Паўночны, Масюкоўшчына,п.п.Лябяжы Ждановічы, Фестывальны, **далей да Гудагая з прып.** па станцыях, п.п.Заскавічы, Маладзёжны, Каменка | **6132** | 17:46 | 19:06 | **штодзённа да Мінска** |
| **6129** | 20:32 | 21:55 | **штодзённа** | **7036** | 20:00 | 21:22 | **штодзённа** з прып. па станцыях, п.п. Каменка, Гаўці, Маладзёжны, Заскавічы, **далей да Мінска** з прып. п.п. Фестывальны, Ждановічы, п.п. Лябяжы, Масюкоўшчына, Мінск-Паўночны. |
| **6131** | 21:17 | 22:06 | **да ст. Солы па станцыях, п.п.Заскавічы, Маладзёжны** | **6138** | 21:06 | 22:16 | **штодзённа** з прып.па станцыях, п.п. Каменка, Маладзёжны, п.п. Насілава, **далей да Мінска** б/п Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка |
| **Маладзечна - Ліда** | | | | **Ліда - Маладзечна** | | | |
| **6261** | 08:44 | 11:43 | **штодзённа** | **6262** | 04:08 | 07:16 | **штодзённа** |
| **6263** | 12:36 | 15:28 | **у выхадныя** | **6264** | 08:40 | 11:45 | **штодзённа** |
| **6265** | 18:36 | 21:37 | **штодзённа** | **6266** | 12:19 | 15:19 | **у выхадныя** |
| **6267** | 20:39 | 23:37 | **штодзённа** | **6268** | 15:48 | 18:46 | **штодзённа** |
| **Маладзечна – Крулеўшчына - Полацк** | | | | **Полацк - Крулеўшчына - Маладзечна** | | | |
| **6626** | 08:56 | 11:17 Крулеўшчына | **штодзённа** 13:16 Полацк | **6622/ 6621** | 04:59 з Крулеўшчыны | 07:10 | **штодзённа з Глыбокага** ў 04:22 |
| **6684** | 12:41 | 14:50 | **у выхадныя** да Крулеўшчыны | **6683** | 15:20 з Крулеўшчыны | 17:41 | **у выхадныя** |
| **6676** | 16:14 | 16:48 | **у рабочыя** да Вілейкі | **6683** | 17:06 | 17:41 | **у рабочыя дні** з Вілейкі |
| **6630/ 6631** | 20:14 | 22:27 Крулеўшчына | **штодзённа** 23:10 Глыбокае | **6625** | 17:30 з Крулеўшчыны | 19:35 | **штодзённа** з Полацка ў 15:33 |

| **Маладзечна - Мінск** | | | | **Мінск - Маладзечна** | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| №цяг-ніка | Час ад-праў-лення | Час пры-быцця | Даты руху, кі-рункі, прыпын-кі | №цяг-ніка | Час ад-праў-лення | Час пры-быцця | Даты руху, кі-рункі, прыпынкі |
| **6102** | 04:17 | 06:01 | **б.п.** Селівонаўка | **6101** | 00:30 | 02:10 | **б.п.** Татаршчызна, Селівонаўка |
| **6104** | 05:12 | 06:59 | | **6103** | 04:40 | 06:11 | **б.п.** Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі **да Гудагая** |
| **6106** | 05:34 | 07:22 | **па рабочых днях** | **6105** | 05:25 | 07:09 | |
| **6108** | 05:48 | 07:34 | **з Гудагая** | | | | |
| **6110** | 06:45 | 08:41 | | **6107** | 06:25 | 08:16 | **да Гудагая** |
| **7032** | 07:11 | 08:24 | **з прыпынкамі Фестывальны, Ждановічы, Лябяжы, Масюкоўшчына, Мінск-Паўночны** | **6109** | 07:23 | 09:24 | |
| **6112** | 07:33 | 09:20 | **з Гудагая** | **6113** | 08:48 | 10:43 | |
| **6114** | 09:01 | 10:51 | | **6115** | 09:52 | 11:45 | |
| **6116** | 09:46 | 11:22 | **з Гудагая да ст. Алёхнавічы з усімі прыпынкамі, далей па станцыях, п.п Лябяжы, Масюкоўшчына** | **6117** | 11:10 | 12:55 | **штодзённа па суботах, нядзелях да Гудагая** |
| **6120** | 10:46 | 12:32 | | **6119** | 13:00 | 14:45 | |
| **6122** | 13:00 | 14:47 | | **6121** | 14:06 | 15:55 | **б.п.** Селівонаўка **да Гудагая** |
| **6124** | 14:56 | 16:43 | | **6123** | 15:30 | 17:17 | |
| **6126** | 16:13 | 18:00 | | **6125** | 16:22 | 18:06 | **да Гудагая** |
| **6128** | 16:47 | 18:34 | **штодзённа, па вых. днях** ідзе ад ст.Гудагай | **6127** | 17:34 | 19:19 | |
| **6130** | 17:31 | 19:29 | | **7035** | 18:11 | 19:26 | **Мінск–Маладзечна з прып.** Мінск-Паўночны, Масюкоўшчына, п.п. Лябяжы Ждановічы, Фестывальны, **далей да Гудагая**, з прып. па ст.і п.п.Заскавічы і п.п. Маладзёжны, Каменка |
| **6132** | 19:10 | 20:56 | **з Гудагая** | | | | |
| **7034** | 19:48 | 21:08 | **з прыпынкамі па станцыях, п.п.** Фест., Лябяжы, Масюкоўшчына | **6129** | 18:17 | 20:01 | да Гудагая |
| **6136** | 20:32 | 22:27 | | **6131** | 19:18 | 21:12 | да ст. Солы, па станцыях і п.п.Заскавічы, Маладзёжны |
| **7036** | 21:28 | 22:43 | **Гудагай-Маладзечна з прып. па станцыях і п.п.Каменка, Гаўці, Маладзёжны, далей да Мінска з прып. Фестывальны, Ждановічы, Лябяжы, Масюкоўшчына, Мінск-Паўночны** | **6133** | 20:34 | 22:29 | |
| **6138** | 22:20 | 23:58 | **з Гудагая б.п.** Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка | **6135** | 22:15 | 23:57 | **б.п.** Татаршчызна, Селівонаўка |

# Расклад руху пасажырскіх цягнікоў ад 10 снежня

| № цягніка | Маршрут руху | Адпр. з пач. станц. | По станцыі Маладзечна: прыбыццё | стаянка | адпраўленне | Прыб. на канц. станц. | Дні курсіравання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **633Ф** | Магілёў-Гродна | 19:08 | 01:17 | **3** | 01:20 | 06:01 | няцотныя |
| **623Б** | Віцебск-Гродна | 18:54 | 01:17 | **3** | 01:20 | 06:01 | цотныя |
| **677Б** | (п/в Масква) Мінск-Гродна | 1:30 | 02:44 | **4** | 02:48 | 08:03 | **12/12-22/12; 17/01-22/02; 28/02-07/03; 14/03-23/03; 04/04-13/04; 20/04-27/04; 16/05-01/06; 04/09-26/10; 14/11-10/12-2018** |
| **77Щ** | Масква-Гродна | 16:37 | 03:46 | **3** | 03:49 | 08:36 | **23/12-16/01;23/02-27/02; 08/03-13/03;24/03-03/04; 28/04-15/05; 02/06-03/09; 27/10-13/11** |
| **148Ч** | Калінінград-Масква | 17:26 | 03:02 | **2** | 03:04 | 15:30 | **27,29,30/12; 01,02,03,04,05,06,08,09/01; 22,26/02;07,11/03;27,28/04; 02,06,13/05; 25/05-10/09-пндз, пятн; 02,06/11,** |
| **29Ч** | Масква-Калінінград | 17:20 | 04:08 | **2** | 04:10 | 13:33 | штодзённа акрамя **01/01** |
| **626Б** | Вітебск-Мінск | 21:38 | 04:24 | **29** | 04:53 | 06:32 | штодзённа |
| **360Ч** | Калінінград-Адлер | 19:30 | 05:02 | **2** | 05:04 | 07:46 | **13/12-23/12-няц.; 24,26,29/12;03/01-19/05 няц.; 21,23,26,28,30/05;с 01/06 няц.;** |
| **79Ч** | С.Пецярбург- Калінінград | 15:30 | 5:19 | **16** | 5:35 | 15:14 | **11,14/12-28/12 пн.чц.сб. 30,31/12;03,04,06,07,09,10/01; 13/01-22/02 пн.чц.сб; 23,26,27/02; 01,03,05,08,10,12,13/03; 15/03-26/04 пн,чц,сб; 29,30/04;03,04,07/05; 10/05-21/05- пн,чц,сб; 22,24,26,28/05, 29/05-07/06- пн,чц,сб,ндз 10,11,13,14/06; 16/06-04/09-пн,аўт,чц,сб; 06/09-03/11-пн,чц,сб; 06,07/11, з 10/11-чц,сб,пн.** |
| **88Б** | Рыга-Мінск | 19:20 | 06:09 | **28** | 06:37 | 07:50 | няцотныя |
| **673Б** | Мінск-Гродна п/в з С.Пецярбурга (па цотн.) | 07:02 | 08:05 | **2** | 08:07 | 11:48 | штодзённа |
| **805Б** | Мінск-Вільня | 07:35 | 08:26 | **1** | 08:27 | 09:05 | штодзённа |
| **746Б** | Ліда-Мінск | 06:46 | 08:30 | **2** | 08:32 | 09:39 | штодзённа |
| **739Ф** | Полацк-Мінск | 06:19 | 08:36 | **8** | 08:44 | 09:57 | штодзённа |
| **801Б** | Мінск-Вільня | 08:10 | 09:10 | **2** | 09:12 | 10:59 | субота, нядзеля |
| **147Ч** | Масква-Калінінград | 23:10 | 10:03 | **2** | 10:05 | 19:46 | **28,30.31/12, 02,03,04,05,06,07,09,10/01-2018, 23,27/02;08,12/03;28,29/04; 03,07,14/05; 26/05-11/09-аўт,суб,03,07/11** |
| **630Б** | Гродна-Мінск | 06:25 | 10:27 | **2** | 10:29 | 11:32 | штодзённа |
| **803Б** | Мінск-Вільня | 10:35 | 11:29 | **2** | 11:31 | 12:35 | штодзённа |
| **741Б** | Мінск-Ліда | 15:25 | 16:24 | **3** | 16:27 | 18:15 | штодзённа |
| **808Т** | Вільня-Мінск | 15:05 | 18:06 | **2** | 18:08 | 19:00 | штодзённа |
| **629Б** | Мінск-Гродна | 17:05 | 18:14 | **2** | 18:16 | 22:20 | штодзённа |
| **739Б** | Мінск-Полацк | 17:28 | 18:27 | **8** | 18:35 | 21:03 | штодзённа |
| **674Б**<br>**674Б** | Гродна-Мінск п/в да С.Пецярбурга (па цотн.) п/в да Масквы (10/12-20/12) | 15:13<br>15:13 | 18:57<br>18:57 | **2**<br>**2** | 18:59<br>18:59 | 20:02<br>09:32 | штодзённа |
| **745Б** | Мінск-Ліда | 19:08 | 20:12 | **2** | 20:14 | 22:04 | штодзённа |
| **80Ч** | Калінінград-С.Пецярбург | 10:39 | 20:13 | **13** | 20:36 | 11:10 | **12/12-26/12 аўт,чц,сб, 28,29/12; 01,02,04,05,07,08/01 11/01-20/02 аўт,чц,сб, 21,24,25,27/02; 01,03,06,08,10,11/03; 13/03-24/04-аўт,чц,сб; 27,28/04; 01,02,05/05;08/05-26/05-аўт,чц,сб; 27/05-05/06-аўт,чц,сб,нядз; 08,09,11,12/06; 14/06-02/09-аўт,чц,сб,нядз; 04/09-01/11-аўт,чц,сб; 04,05/11; з 08/11-аўт,чц,сб.** |
| **807Б** | Мінск-Вільня | 19:30 | 20:22 | **1** | 20:23 | 21:00 | да 23 снежня 2017 г. |
| **806Т** | Вільня-Мінск | 18:30 | 21:09 | **1** | 21:10 | 22:00 | штодзённа |
| **634Б** | Гродна-Магілёў п/в да Масквы (па чыслах) | 15:52 | 21:15 | **3** | 21:18 | 04: 59 | няцотныя |
| **624Б** | Гродна-Віцебск п/в да Масквы (па чыслах) | 15:52 | 21:15 | **3** | 21:18 | 04:55 | цотныя |
| **87Б** | Мінск-Рыга | 20:43 | 21:48 | **28** | 22:16 | 07:30 | няцотныя |
| **78Б** | Гродна-Масква | 17:29 | 21:50 | **3** | 21:53 | 09:50 | **21/12-14/01; 21/02-25/02; 06/03-11/03** |
| **742Б** | Ліда-Мінск | 20:27 | 22:11 | **2** | 22:13 | 23:12 | штодзённа |
| **625Б** | Мінск-Віцебск | 21:28 | 22:45 | **36** | 23:21 | 06:46 | штодзённа |
| **359С** | Адлер-Калінінград | 21:01 | 22:53 | **2** | 22:55 | 08:39 | **13/12;17/12-27/12 няц; 28,30/12; 03/01; 07/01-23/05 няц; 25,27,30/05; 01,03,05/06; з 07/06-няцотн;** |
| **30Ч** | Калінінград-Масква | 14:02 | 23:20 | **2** | 23:22 | 09:10 | штодзённа **(акрамя 31/12)** |
| **802Т** | Вільня-Мінск | 20:17 | 00:07 | **2** | 00:09 | 01:05 | нядзеля, панядзелак |

**Тэл. для даведак (8-0176) 74-24-23, 105.** Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі, станцыя Маладзечна УНП 600199541

## Ад 10 снежня 2017 года назначаюцца ў штодзённае курсіраванне цягнікі бізнес-класа:

**№741, 745 Мінск - Маладзечна - Ліда**

адпраўленне ад ст. Мінск у **15:25**
прыбыццё на ст. Маладзечна ў **16:24**
прыбыццё на ст. Ліда ў **18:15**

адпраўленне ад ст. Мінск у **19:08**
прыбыццё на ст. Маладзечна ў **20:12**
прыбыццё на ст. Ліда ў **22:04**

**№746, 742 Ліда - Маладзечна - Мінск**

адпраўленне ад ст. Ліда ў **06:46**
прыбыццё на ст. Маладзечна ў **08:30**
прыбыццё на ст. Мінск у **09:39**

адпраўленне ад ст. Ліда ў **20:27**
прыбыццё на ст. Маладзечна ў **22:11**
прыбыццё на ст. Мінск у **23:12**

Цягнікі робяць прыпынкі на станцыях Валожын, Багданаў.

Кошт праезду ад ст. Маладзечна да ст. Ліда – **4,67 руб.**

---

**№739 Мінск - Маладзечна - Полацк**

адпраўленне ад ст. Мінск у **17:28**
прыбыццё на ст. Маладзечна ў **18:27**
прыбыццё на ст. Полацк у **21:03**

**№739 Полацк - Маладзечна - Мінск**

адпраўленне ад ст. Полацк у **06:19**
прыбыццё на ст. Маладзечна ў **08:36**
прыбыццё на ст. Мінск у **09:57**

Цягнікі робяць прыпынак на станцыях Вілейка, Параф'янаў, Крулеўшчына

Кошт праезду ад ст. Маладзечна да ст. Полацк – **5,57 руб.**

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

## Як перамагаць дзякуючы "звязкам"

**Сёння мы працягнем вучыцца рабіць правільны дэбют у шахматах. Разбяром пазіцыю з маёй кнігі "Мат у адзін ход" – дыяграму №146. Мат ставяць пры сваім ходзе абодва бакі.**



Той, хто бачыць тут "звязкі", – той бачыць усё! Звязка для пачаткоўца – вельмі складаны прыём, таму трэба рашаць шмат задач, каб зразумець і засвоіць. Гэта задачка якраз на тэму "звязкі".

Ход белых. Падаецца, што чорны кароль надзейна акапаўся за чорнымі пешкамі. Але калі ўважліва паглядзець, заўважым страшных белых сланоў. Яны літаральна праразаюць усю дошку сваімі кінжальнымі хобатамі.

Чарнапольны слон b2 – паўнавартасны валадар вялікай дыяганалі a1-h8. Яго белапольны сабрат c2 кантралюе важную дыяганаль b1-h7.

І тут раптам сустракаем чорнага караля на h7. З аднаго боку яго прыкрывае пешка g6, але яна можа выканаць толькі адну задачу. У дадзеным выпадку – прыкрываць караля h7 ад кінжала слана c2. А вось абараняць пешку h5 пешка g6 не ў стане. Пешка g6 звязаная сланом c2.

Як рашыць? Правільна, узяць ферзем на h5. 1. Ф d1:h5 мат!

Паспрабуйце самі рашыць задачку за чорныя фігуры. Алгарытм рашэння на тэму звязкі ідэнтычны з "белым" рашэннем.

З вамі быў я, Віталь Качаткоў, і калі ў вас з'явілася дзіця з фішараўскімі схільнасцямі – смела цягніце яго да мяне, і мы скарым гэты свет!



Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.

## Ашмянцы атрымалі перамогу на Кубку прыбалтыйскіх краін

АШМЯНЫ

**У мінулыя выхадныя ў Каўнасе адбыўся X, юбілейны, Кубак Прыбалтыйскіх краін па экіпіравальнаму паўэрліфтынгу.**

Трэба адзначыць, што на працягу ўсёй гісторыі спаборніцтваў каманда ашмянскіх паўэрліфтараў на чале з **Міхасём Станкевічам** з'яўляецца не толькі ганаровым госцем спаборніцтваў, але і дамагаецца высокіх вынікаў. Тройчы ашмянцы станавіліся пераможцамі турніру.

Удалай ва ўсіх адносінах стала мінулая сустрэча наймацнейшых атлетаў Прыбалтыкі і шэрагу еўрапейскіх краін. Каманда цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Аякс-1" заняла вышэйшую прыступку п'едэстала. Другое і трэцяе месцы дасталіся дзвюм мацнейшым камандам з Літвы, чацвертае – атлетам з Эстоніі.

У асабовым першынстве сярод жанчын **Надзея Цярэшка** заняла трэцяе месца, **Крысціна Шлыковіч** – чацвертае, у **Кацярыны Мядвецкай** – другое. Кацярына заваявала таксама бронзу ў абсалютным першынстве. Сярод мужчын другім быў **Аляксандр Шымановіч**. У нялёгкай барацьбе золата дасталася **Аляксандру Вераб'ёву** і **Яўгену Каўцэвічу**, срэбра – у **Мікалая Гаравога**. Не трапілі ў лік прызёраў **Альберт Станкевіч** і **Максім Целяпнёў**, але яны таксама прынеслі камандзе ачкі, якія ў выніку дазволілі ашмянцам выйсці ў лідары турніру.

За садзейнічанне развіццю сяброўскіх сувязяў паміж Літвой і Беларуссю з дапамогай спорту прадстаўнікі Дэпартамента спорту і Федэрацыі паўэрліфтынгу Літоўскай Рэспублікі ўручылі трэнеру Міхаілу Станкевічу імянны кубак з гравіроўкай, як знак высокай удзячнасці і павагі.

Размова на турніры ішла пра тое, што ў Ашмянах у 2018 годзе плануецца правесці Кубак Еўропы па паўэрліфтынгу. Літоўскія і польскія калегі, якія маюць досвед правядзення такога ўзроўню спаборніцтваў, выказалі жаданне аказваць падтрымку і дапамогу беларускаму боку ў арганізацыі турніру.

**Аліна САНЮК, osh.by**

# Плыўцоў у басейн запусцяць у канцы снежня




Фота Наталлі ТУР.

Надпіс сіняй фарбай на сцяне застанецца да лета. Пасля касметычнага рамонту, магчыма, знікне.

МАЛАДЗЕЧНА

**У басейн "Маладосць" завезлі два віды пліткі: блакітную і цёмна-сінюю. У чашы цяпер працуюць рабочыя, кладуць другі слой гідраізаляцыі. Дырэктар СДЮШАР прафсаюзаў Павел Герасімюк расказаў, што плыўцоў плануюць запусціць у ваду ў канцы года.**



Фота Наталлі ТУР.

Цяпер у басейне рабочыя кладуць пласт гідраізаляцыі.

– Я баюся называць канкрэтную дату, бо мы планавалі закончыць працы ўжо ў лістападзе, але з-за недахопу фінансавання тэрміны змясціліся. Таму хочацца верыць, што ў канцы снежня ваду ў басейн нарэшце зальём.

Рамонт у басейне – гэта першы рамонт за 47 гадоў.

І то гаворка ідзе не пра глабальную рэканструкцыю, а толькі пра рамонт чашы з вадой. Распранальні рамонт не закране, як і надпіс на сцяне: "Прывітанне ўдзельнікам спаборніцтваў".

– Да "Дажынак" мы зрабілі прыгожы фасад, а вось унутры ўсё як было страшнае, так і засталося. Канешне, мы плануем зрабіць і касметычны рамонт, але не раней за лета. Не з'явіцца ў басейне і вышка.

– Яе і прыбралі таму, што яна не выконвала сваёй функцыі. Мы не вучым дзяцей скачкам у ваду, а наяўнасць вышкі – гэта дадатковая адказнасць і небяспека. Задача нашай установы – вучыць дзяцей плаванню і аказваць паслугі насельніцтву ў іх імкненні да здаровага ладу жыцця.

**– Ці пацярпеў трэніровачны працэс у дзяцей, што займаюцца плаваннем?**

– Канешне, трэніровак стала менш, але мы не можам не падзякаваць усім тым, хто пайшоў нам насустрач і прыняў у свае басейны нашых дзяцей. Па-першае, гэта басейн электрычных сетак. Але ім мы плацім грошы, аддзел адукацыі, спорту і турызму дамовіўся з басейнамі 11 і 14 школ. А вось спартыўна-забаўляльны цэнтр адзіны, хто не пайшоў нам насустрач.

Што датычыцца працы ўсёй установы, то трэніроўкі па спартыўнай гімнастыцы праходзяць, як і раней.



Фота Наталлі ТУР.

Работы, як мяркуецца, закончаць да канца гэтага года.

**Наталля ТУР.**

**Даведка "РГ":** Басейн "Маладосць" адкрыў свае дзверы для наведнікаў 14 красавіка 1970 года. Даўжыня басейна – 25 метраў, ёмістасць – 900 м³, у басейне ёсць шэсць дарожак па 2,5 метра. Басейн старой канструкцыі, вада ў басейне не заліваецца да краёў, таму ён не падыходзіць для правядзення міжнародных спаборніцтваў.

● НАВАГОДНЯЯ АКЦЫЯ АД "РГ"



Удзельнік акцыі №3 Ірына Грынкевіч. Іх любіміца Маіза можа быць і ездавым сабакам. Мінулай зімой на прагулцы з дачкой Ірыны Ксеніяй.

# Падарыце свайму гадаванцу навагодні падарунак

**Набліжаецца час цудаў. Усе чакаюць Дзеда Мароза з мехам падарункаў.**

Не выключэнне і вашы любімыя хатнія гадаванцы. Тым больш, што надыходзячы год – год Сабакі.

Таму "Рэгіянальная газета" вырашыла зрабіць падарунак як гаспадарам, так і іх чатырохногім сябрам.

Дашліце на электронны адрас region-news@rh.by сумеснае фота вас з вашым сабакам.

Мы разам выберам не толькі сімвал Новага года, але і ўручым падарунак, прыемны вам і карысны вашаму гадаванцу.

Каб стаць удзельнікам акцыі, неабходна даслаць адно фота ад аднаго чалавека.

У акцыі будуць два пераможцы – адзін на выбар рэдакцыі, другі – прыз глядацкіх сімпатый паводле галасавання на сайце rh.by.

Фота прымаюцца да 18 снежня.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра сваё фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце "Мой гадаванец".

Большасць з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.

Усім удачы і перамогі!

**Калектыў "РГ".**

● ГАРАСКОП 8-14 СНЕЖНЯ



**АВЕН.** Вы моцна пагружаныя ў пытанні матэрыяльнага характару, і хоць ваш стан зараз даволі стабільны, вы не можаце разлічваць на гэта заўсёды. Вам трэба перагледзець свае погляды, бо грошы прыходзяць і сыходзяць, любыя матэрыяльныя каштоўнасці часовыя і не дазваляюць вам духоўна развівацца.



**ЦЯЛЕЦ.** Чакайце сур'ёзных змяненняў у жыцці. Спачатку гэта можа здацца катастрофай, але на самой справе вынікі вельмі парадуюць. Вы зможаце скінуць з сябе груз непатрэбнай цяжкасці, вызваліцца ад старых догмаў і адкрыць для сябе новы свет.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы востра рэагуеце на ўсё, што адбываецца, часта перажываеце з-за дробязяў, часам раздражняецеся з-за рэчаў, на якія ў іншы час нават не звярнулі б увагі. Пастарайцеся сканцэнтравацца на тым, што сапраўды важна, а ўсё астатняе адкладзіце.



**РАК.** Вам будзе здавацца, што на вашу долю выпала ўжо занадта шмат розных клопатаў. Пацешце сябе, дайце магчымасць супакоіцца. І тады вашы цяжкасці пачнуць сыходзіць і не будуць здавацца такімі ўжо сур'ёзнымі.



**ЛЕЎ.** Упэўненасць ва ўласных сілах з кожным днём будзе расці. Адлюстраванне гэтага вы зможаценазіраць і ў павышэнні ўстойлівасці пры зносінах з іншымі людзьмі, і ў магчымасці адбіць любыя нападкі як з боку людзей, так і з боку неспрыяльных жыццёвых сітуацый.



**ДЗЕВА.** Наладзьце сустрэчу для абмежаванага кола людзей, размовы, якія ні да чаго не абавязваюць, дапамогуць узнавіць баланс у вашых бурных эмоцыях.



**ШАЛІ.** Вы замкнутыя, у вас няма жадання мець зносіны з іншымі людзьмі – з гэтым не трэба змагацца, наадварот, гэта спрыяльны час для таго, каб заняцца самім сабой, разабрацца ў сваіх думках, пачуццях. Гэты стан сам па сабе пройдзе, а вы зможаце паставіць канкрэтныя мэты і ўпэўнена пачаць рухацца па шляху іх дасягнення.



**СКАРПІЁН.** У вас прыбываюць жыццёвыя сілы, і з кожным днём іх будзе становіцца ўсё больш. Калі вы прыхварэлі, то цяпер ёсць усе шанцы прыйсці ў норму. У гэты час добра даюцца гімнастыка і энергетычныя практыкаванні. Зараджаюцца новыя ідэі, але больш матэрыяльнай накіраванасці, чым духоўнай.



**СТРАЛЕЦ.** Вельмі станоўчы перыяд. Гэты час дазволіць вам раскрыць свае ўнутраныя сілы, лепш зразумець сябе, свае імкненні і жаданні, развіць унутраную энергетыку. У такія моманты можна лёгка падняць самаацэнку, зразумець вялікія ісціны, якія так не проста нам даюцца.



**КАЗЯРОГ.** Вам прыйдзецца добра папрацаваць, але і карысць будзе немалая. Праўда, вы адчуеце стомленасць. А ўсё ад таго, што вы берацe на сябе больш, чым у рэальнасці можаце зрабіць.



**ВАДАЛЕЙ.** Вас будуць наведваць негатыўныя думкі. І ў гэтым ёсць добры аспект – павышаецца ваша сэксуальнасць, фізічная вынослівасць. Нізкачастотныя энергіі дазволяць вам змагацца з інфекцыйнымі захворваннямі. Можа, у асяроддзі людзей ваш эмацыйны настрой і не знойдзе адабрэння. Але вы на гэты конт не замарочвайцеся.



**РЫБЫ.** Калі ў вас сямейныя і любоўныя справы перажываюць не лепшы перыяд, то перагледзьце сваю манеру паводзін з партнёрам. Памятайце, што кожны чалавек мае права на памылку.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №48**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Высілак. 3. Еўнух. 4. Батурын. 6. Жаніх. 8. Выспа. 9. Жвір. 11. Логава. 13. Жолуд. 14. Ліўр. 15. Турнір. 16. Лагода. 17. Нуакшот. 19. Вярста. 21. Гарадок. 22. Цацка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Выснова. 5. Евангелле. 7. Лупіна. 8. Вяха. 10. Кегль. 11. Ланалін. 12. Сайт. 13. Жывот. 18. Хвароба. 20. Опус.

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 7 | | | | | 6 | 4 |
| | 6 | | 8 | 1 | | | | 3 |
| | | | 7 | | 6 | 1 | | 9 |
| 5 | 8 | | 1 | 3 | | | | |
| 7 | 2 | | | 4 | | | 3 | |
| | | | | 2 | | | 1 | |
| | | 8 | 5 | 7 | | | | |
| | | | | 8 | 9 | 3 | | |
| | | | | 6 | | 4 | 5 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | 1 | 7 | 2 | 9 | 3 | 5 | 6 | 4 |
| 9 | 6 | 5 | 8 | 1 | 4 | 7 | 2 | 3 |
| 2 | 4 | 3 | 7 | 5 | 6 | 1 | 8 | 9 |
| 5 | 8 | 6 | 1 | 3 | 7 | 9 | 4 | 2 |
| 7 | 2 | 1 | 9 | 4 | 8 | 6 | 3 | 5 |
| 3 | 9 | 4 | 6 | 2 | 5 | 8 | 1 | 7 |
| 4 | 3 | 8 | 5 | 7 | 1 | 2 | 9 | 6 |
| 6 | 5 | 2 | 4 | 8 | 9 | 3 | 7 | 1 |
| 1 | 7 | 9 | 3 | 6 | 2 | 4 | 5 | 8 |

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by





## ● НАДВОР'Е

### 9 снежня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +1 / +1 | воблачна | 0 / +1 | воблачна | 0 / +1 | снег | -2 / -1 | воблачна |
| | 732 | ↑ 5 | 739 | ↗ 2 | 730 | ↖ 2 | 734 | ↗ 5 |
| Вільня | +1 / +1 | дождж | +2 / +1 | воблачна | -2 / -1 | воблачна | -2 / 0 | снег |
| | 735 | ↗ 7 | 739 | ↗ 6 | 737 | ↗ 2 | 739 | ↗ 5 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с / Усход, захад па Маладзечне

Усход 9.21
Захад 16.49
Даўжыня дня 7.28

Усход 0.00
Захад 13,34
Квадра 3




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -20,9 °C у 2002 годзе
Максімальная тэмпература +7,2 °C у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 7,2 мм у 2010 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● У Казахстане ў сяле Паўлаўка на мясцовых могілках пахавана жанчына з Вілейкі Марыя Фабісяк. Мясцовыя жыхары даглядаюць магілу ад 1944 года і шукаюць сваякоў жанчыны.



## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

У другім класе я казаў маме, што мне падабаецца адна дзяўчынка. І мама давала мне ў школу дзве шакаладкі. На самой справе мне ніхто не падабаўся, і абедзве шакаладкі я з'ядаў сам.

***

Запіс у дзённіку сына: "Ваш сын вельмі любіць дзяўчынак. Прыміце меры".
Адказ: "У нашага таты такая ж праблема. Калі знойдзеце рашэнне, падзяліцеся".

***

– Засына-а-ай! На руках у мяне засына-а-ай! Засына-а-ай пад спевы дажджу...
– Прабачце, а можна мне іншага анестэзіёлага?

***

– Якія ў вас планы на першага студзеня?
– Катацца на санках.
– А калі снегу не будзе.
– Гэта, канешне, нас засмуціць. Але не спыніць.

***

У жаночай сумачцы галоўнае – не фасон, а каб слоік з супам улез на работу.



## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці апыналіся вы ў экстрэмальнай сітуацыі і як знаходзілі выйсце?



**Алеся Кульша, спявачка, Маладзечна:**
– Былі такія справы. Але ўсё заканчвалася добра. У дзяцінстве падала з даху, неяк ледзь не патанула. Галоўнае ў такія моманты – не панікаваць, быць больш-менш разважлівым.



**Наталля Клімёнак, швачка, Маладзечна:**
– Неяк адпачывалі ў паляўнічым доміку. Сын парэзаў руку сячкарняй. Завязалі руку бінтам з аптэчкі і паехалі ў бальніцу. Па дарозе забаўлялі сына размовамі, не паказвалі, што панікуем. У бальніцы сына агледзелі. На двух пальцах былі трэшчыны, на трэцім – разрэзаная падушачка.



**Аляксей Марасевіч, кіроўца, Вілейка:**
– Быў на рыбалцы з сямігадовым сынам. Злавіў шчупака і кінуў на траву. Сын не думаў, што шчупак жывы і вырашыў памацаць пальцам, як там у рыбы ў роце. Усунуў палец, а шчупак якраз пашчу закрыў. Прыйшлося паскорыць смерць рыбы, тады палец вызвалілі.



**Уладзімір Саўчык, прадпрымальнік, Вілейка:**
– Нічога сур'ёзнага не было. У дзяцінстве, як і ўсе, напэўна, з ровара падаў, калені біў, ад пеўня палкай адбіваўся. А яшчэ сябар-аднагодак неяк мне з рагаткі ў шчаку засадзіў прабойчыкам з дроту. Шрам да гэтага часу ёсць. Добра, што не ў вока.



**Сабіна Газаран, лагіст, Маладзечна:**
– Вырашыла атрымаць другую вышэйшую адукацыю. Ехала ў Мінск на маршрутцы. На палове дарогі трапілі ў аварыю. Ніхто не пацярпеў. Але я апынулася ў адным канцы маршруткі, папка – у другім. Гэты выпадак успрыняла як знак, што не трэба мне другая вышэйшая адукацыя.



**Жанна Гардынец, даглядае інваліда, Вілейка:**
– Ехала на мядзельскай маршрутцы. На шляху сеў спадарожнік і стаў прымушаць кіроўцу давезці яго да дома. Было страшна, я ўжо манікюрныя нажнічкі трымала, калі раптам што. Кіроўца ўсё ж падвёз скандаліста. Потым смяяліся, калі я пра нажнічкі расказала.



**Алена Бажко, настаўніца, Маладзечна:**
– Студэнтамі гулялі з сябрам па сталіцы. Пераходзілі дарогу. Машын шмат. Людзей шмат. Я ішла блізка каля адной машыны, а яна невядома з чаго пачала рухацца. Сябар у апошні момант адкінуў мяне і сам напалохаўся, пасля яшчэ з кіроўцам сварыўся. А я нават не зразумела нічога.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№49 (1180) 8.12.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1168. Падпісана ў друк у 9.00 7.12.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.
Тэл.: (80176) 53-78-04 (рэклама, факс), 53-78-05 (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), 53-78-06 (журналісты), (8029) 573-28-47, 676-84-20. E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.